ЛіМ

ГАЗЕТА
ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ
БЕЛАРУСІ

# ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

26 жніўня 1994 г. № 34 (3756) Кошт 25 руб.

## АПАЛАГЕТЫКА АДРАДЖЭННЯ

**_Васіль АЎРАМЕНКА: «Я лічу, што менавіта нацыянальны прагматызм мусіць стаць галоўным кірункам беларускага развіцця, і наша Адраджэнне адбудзецца тады, калі тутэйшыя нацыяналісты стануць эканамістамі, а эканамісты — нацыяналістамі»._**

3—4

## ГОЛАС ДУШЫ ПЛЮС ХАРАКТАР

**_1 верасня «Песнярам» — 25. Уладзімір МУЛЯВІН распавядае пра гісторыю станаўлення слыннага ансамбля._**

12

## САМАЯ ГАНЕБНАЯ СТАРОНКА

**_Ігар МЯДЗВЕДЗЕЎ: «Выкараненне царкоўнай уніі, якое здзяйснялася царызмам пад знакам аднаўлення нібыта «спрадвечна рускага праваслаўнага аблічча» большай часткі земель, інкарпараваных у склад Расейскай імперыі ў выніку падзелаў Рэчы Паспалітай, цягнулася з XVIII да пачатку XX стагоддзя. «Отторгнуты насилием — воссоединены любовью» — вось дактрынальная формула, лейтматыў рускай дакастрычніцкай гістарыяграфіі». Як жа было на самой справе?_**

## БУДЗЬМА РАЗАМ!

Як нам паведамілі з ДАП «Мінская пошта», 19 жніўня ва ўсе паштовыя аддзяленні краіны была даслана тэлеграма, у якой выпраўлена прыкрая недарэчнасць — названы кошт падпіскі на «ЛіМ». А таму, паважаныя прыхільнікі «ЛіМа», патрабуйце, каб на вашых поштах не адмаўлялі ў падпісцы на «ЛіМ». Яшчэ раз нагадваем — кошт падпіскі на нашае выданне на чацвёрты квартал гэтага года:

**на 3 месяцы — 600 рублёў;**
**на 2 месяцы — 400 рублёў;**
**на 1 месяц — 200 рублёў.**

Наш індэкс — 63856

**Падпішыцеся на «ЛіМ» — ужо сёння**
**Атрымлівайце «ЛіМ» — кожную пятніцу**
**Чытайце «ЛіМ» — увесь тыдзень**



## «ЦІ ЁСЦЬ КРЫНІЦЫ Ў РОДНЫМ КРАІ»

**_Здавалася б, што вабіць гэтак з далёкай замежнай краіны чалавека дадому, у край бедны, разрабаваны, няласкавы, а часам і проста варожы?.._**

**_Паўстагоддзя мінула, не птушка крылом махнула, а памяць не прытупілася, а боль востры. Дадому, да родных берагоў і крыніц. Непераадольны кліч. Дзякуй Богу, радзіма цяпер адкрытая..._**

**_Эмігранты прыязджаюць, каб урэшце суняць гэты сверб душы, а бачаць, што крыніцы перасохлыя, што хат — няма. І нават вёсак няма..._**

(Працяг на стар. 11)

_На здымку: беларус з Амерыкі Міхась СЕНЬКА, беларус з Аўстраліі Антон ЦІХІНСКІ і Яўген ЛЕЦКА — заснавальнік вядомага згуртавання «Бацькаўшчына»._

_Фота А. КЛЕШЧУКА_

# ЦІ БЫЦЬ БЕЛАРУСКІМ ЛЕКАМ?

## КАРЭСПАНДЭНТ «ЛІТАРАТУРЫ І МАСТАЦТВА» М. ЗАМСКІ ГУТАРЫЦЬ З НАМЕСНІКАМ СТАРШЫНІ КАМІТЭТА ПА ФАРМАЦЭЎТЫЧНАЙ І МІКРАБІЯЛАГІЧНАЙ ПРАМЫСЛОВАСЦІ ПРЫ САВЕЦЕ МІНІСТРАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ А. ФІЛАНОВІЧАМ

**М. ЗАМСКІ: — Здаецца, так спявалася ў некалі папулярнай песні: «Если хочешь быть здоров, постарайся позабыть про докторов, водой холодной обливайся...» Але ў жыцці амаль кожнага чалавека надыходзіць час, калі «халодная вада» ўжо не дапамагае — дапамагаюць толькі лекі. Я, Аляксандр Аляксандравіч, узяў гэты крыху гулліві тон, каб схаваць сваю пэўную разгубленасць на пачатку нашай гаворкі, разгубленасць, абумоўленую складанасцю, балючасцю праблемы забеспячэння насельніцтва рэспублікі (з яе чарнобыльскай бядой) лекавымі прэпаратамі. Літаральна днямі я зайшоў у аптэку і, прабегшы вачыма цэтлікі з цэнамі на лекі, жахнуўся — некаторыя з іх былі пазначаны шасцізначнымі лічбамі. У першую чаргу гэта тычылася прэпаратаў імпартнага паходжання. Я стаяў і думаў — каму па кішэні лякарства цаной у 150—200 тысяч рублёў? Не нейкі там дэлікатэс у гастраноме, без якога можна абысціся сто гадоў, а лекі, якія для хворага, бывае, адзінае ратаванне! І, думаю, няспынны рост смяротнасці сярод насельніцтва Беларусі не ў апошнюю чаргу абумоўлены недаступнасцю многіх лекавых прэпаратаў з-за іх дарагоўлі.**

**У былым СССР Беларусь лічылася адной з самых індустрыяльна развітых рэспублік, чыя хімічная, аўтамабільная, машынабудаўнічая, электронная прадукцыя была вядома бадай ва ўсім свеце. Як жа так сталася, Аляксандр Аляксандравіч, што фармацэўтычная прамысловасць у нас знаходзілася амаль у зачаткавым стане?..**

А. ФІЛАНОВІЧ: — Не сакрэт, што ў былым Савецкім Саюзе менавіта ў Маскве, у Дзяржплане СССР, вырашалася, якую прамысловасць развіваць у кожнай рэспубліцы. Беларусі, напрыклад, была вызначана роля своеасаблівага зборачнага цэха краіны, дзе з прывазной сыравіны, камплектуючых дэталяў павінны былі вырабляць аўтамашыны і трактары, тэлевізары і хімічныя валокны, станкі і ЭВМ. Што тычыцца фармацэўтычнай вытворчасці, дык у той жа Маскве вырашылі, што нам яе мець неабавязкова, а патрэбу мясцовага насельніцтва ў леках можна задаволіць шляхам цэнтралізаванага завозу. Не ўсякі лекавы прэпарат тады можна было свабодна набыць у аптэцы, але вялікага дэфіцыту на лекі ўсё-такі не адчувалася. У якасці ілюстрацыі прывяду хоць бы адну лічбу — штогод у нашу рэспубліку паступала лекаў на суму 150 мільёнаў долараў. Сродкі гэтыя ішлі з саюзнага бюджэту.

У канцы 1991 года СССР не стала, мы ператварыліся ў самастойную суверэнную дзяржаву, якая адразу сутыкнулася са шматлікімі праблемамі. Адна з іх, так бы мовіць, лекавая праблема. Вы, мабыць, памятаеце, як адразу апусцелі аптэчныя паліцы: нельга было набыць нават самыя распаўсюджаныя лекавыя сродкі тыпу анальгіна, валідола, нітрагліцэрына і г. д. Таму і выспела ў Саўміне рашэнне стварыць камітэт па фармацэўтычнай і мікрабіялагічнай прамысловасці. Дарэчы, амаль ні ў адной з краін СНД аналагічных утварэнняў няма. Рашэнне аб стварэнні камітэта было прынята ўрадам у 1992 годзе, хоць практычна дзейнічаць мы пачалі толькі летась. Да стварэння камітэта, фактычна, ніхто ў рэспубліцы не ведаў, якіх лекавых прэпаратаў нам не хапае, і, наогул, што і ў якой колькасці нам належыць выпускаць. Мала хто меў дакладнае ўяўленне і аб характары працы тых фармацэўтычных прадпрыемстваў, што функцыянавалі на тэрыторыі рэспублікі.

**— Хіба ў нашым Саўміне іх ніхто не курыраваў?**

— Не. Усе яны былі, як тады казалі, саюзнага падпарадкавання. Але было іх мала і патрэбы рэспублікі ў лекавых сродках задаволіць яны, вядома, не маглі. Так што сёння перад намі стаіць задача амаль што нанава стварыць нацыянальную фармацэўтычную прамысловасць.

**— Але ж, відаць, нельга скідваць з рахунку і тое, што ў нас у гэтай галіне было. Даўно і плённа працуюць, як я ведаю, фармацэўтычныя прадпрыемствы ў Мінску, Барысаве, іншых гарадах рэспублікі. Мінскі завод медпрэпаратаў выпускае вельмі эфектыўны сродак пры лячэнні бранхітаў, запалення лёгкіх (па сабе ведаю) — антыбіётык ампіцылін. Іншая справа, што яго далёка не заўсёды знойдзеш у аптэках, што зусім ужо не зразумела — вырабляецца ж ён у нас. У адной аптэцы мне растлумачылі, што дэфіцыт ампіцыліна тлумачыцца тым, што яго пачалі прадаваць за валюту ў іншыя краіны.**

— Гэта ўсё чуткі. Экспарт уласных лекавых сродкаў, тым больш у развітыя заходнія краіны, нам пакуль што не пагражае. Разумееце, у адрозненне ад, скажам, таго ж тэлевізара, электронна-вылічальнай машыны, станка з праграмным кіраваннем, якія з поспехам у нас вырабляюцца і маюць попыт нават у далёкім замежжы, лякарства, нават, здавалася б, самае простае, уяўляе сабой надзвычай тонкую матэрыю. Можна прад'явіць заводу рэкламацыю на тую ж партыю тэлевізараў, а на лекі рэкламацыю не прад'явіш. Рэкамендаванае пасля працяглых клінічных і іншых выпрабаванняў для лячэння той ці іншай хваробы лякарства павінна строга адпавядаць закладзеным у яго параметрам. Гэта не прадукт харчавання, які можа падзяляцца на гатункі — першы, другі і г. д. Лекавага сродку, напрыклад, другога гатунку не можа быць у прынцыпе, бо інакш гэта ўжо не лякарства, а нешта зусім іншае.

**— Гэта ў ідэале. Але ж не параўнаць эфектыўнасць, напрыклад, айчыннага аспірына і лекавага сродку пад той жа назвай, вырабленага ў ЗША.**

— Вы блытаеце розныя рэчы. Наш аспірын горшы за амерыканскі не таму, што зроблены з нейкімі парушэннямі тэхналогіі, — проста ў нас прынята менавіта такая яго формула, дарэчы, і наш аспірын саслужыў добрую службу не аднаму пакаленню людзей. І, у той жа час, вы не зразумейце мяне так, быццам я сцвярджаю, што ў фармакалогіі не існуе паняцця якасці. Існуе, вядома. Узяць, да прыкладу хоць бы тэрмін, на працягу якога лекавы сродак не губляе сваіх уласцівасцей. Я гэта вяду да таго, што выраб лекавых прэпаратаў звязаны з вельмі складанай і тонкай тэхналогіяй, абумоўленай цэлым шэрагам патрабаванняў і да якасці вады, паветра, якое павінна быць ачышчана, тэмпературы ў фабрычных цэхах, спецвопраткі і, галоўнае, падрыхтаванасці персанала. Ва ўсім цывілізаваным свеце да фармацэўтычных прадпрыемстваў, калі яны прэтэндуюць на тое, каб выпускаць прадукцыю на ўзроўні сусветных стандартаў, прад'яўляюцца жорсткія патрабаванні да тэхналогіі, якая павінна адпавядаць міжнароднай сістэме «Джы Эм Джы». Дык вось, я вяртаюся да вашага пытання наконт экспарту нашых лекаў за мяжу. Ніводнае з дзеючых цяпер фармацэўтычных прадпрыемстваў на Беларусі не адпавядае патрабаванням «Джы Эм Джы», і таму лекі нашы ў заходнім свеце нікому пакуль што не патрэбны.

**— Колькі ўсё-такі ў нас зараз працуе прадпрыемстваў па вырабе лекавых і мікрабіялагічных прэпаратаў?**

— Чатырнаццаць.

**— Я перагартаў каталог іх вырабаў і, прызнацца, быў прыемна здзіўлены асартыментам, які ўключаў больш за дзвесце назваў. Але, разам з тым, не мог не звярнуць увагу на такую акалічнасць — сярод лекавых сродкаў, якія выпускае наша прамысловасць, амаль няма лекаў для лячэння захворванняў сардэчна-сасудзістай сістэмы, не кажучы ўжо пра захворванні анкалагічныя — у свеце яны сёння даюць самую высокую смяротнасць.**

— Такую спецыялізацыю некалі вызначылі для нашай рэспублікі.

**— Але ж цяпер яе трэба будзе скарэкціраваць...**

— Не ўсё так проста. Для вырабу кожнага лекавага прэпарата трэба мець так званы тэхналагічны рэгламент, які ўтрымлівае ў сабе навуковыя, тэхнічныя і іншыя распрацоўкі. Пасля распаду СССР навуковая база па распрацоўцы лекавых сродкаў засталося за межамі Беларусі, а калі больш дакладна, дык там, дзе яна была раней сканцэнтравана — у Маскве і Ленінградзе. Купіць зараз тэхналагічны рэгламент вельмі цяжка хоць бы па той прычыне, што каштуе ён дзесяткі, калі не сотні тысяч долараў. Але ж нават калі і купіць яго — гэта яшчэ не ўсё: запусціць тэхналагічны рэгламент у вытворчасць немагчыма без спецыяліста-распрацоўшчыка, а гэта немалыя дадатковыя выдаткі.

Фармацэўтыка — сфера спецыфічных ведаў. А, між тым, кадры для фармацэўтычнай прамысловасці ў былым Савецкім Саюзе рыхтаваў толькі Ленінградскі хіміка-фармацэўтычны інстытут.

**— І на ім свет клінам сышоўся? Нельга знайсці нейкае выйсце?**

— Зараз плануецца адкрыць у Віцебскім медыцынскім інстытуце факультэт па падрыхтоўцы тэхнолагаў па вытворчасці лекавых прэпаратаў. Мы адчуваем вялікі дэфіцыт такіх спецыялістаў. А спатрэбіцца іх яшчэ больш. Сёння ў нас у стадыі будаўніцтва Драгічынскі, Гродзенскі і Нясвіжскі заводы медпрэпаратаў. Будзе ўзводзіцца такое ж прадпрыемства ў Смалявічах.

**— Чым тлумачыцца «прывязка» такой спецыфічнай вытворчасці менавіта да гэтых райцэнтраў? Лішак рабочай сілы, нейкія сыравінныя запасы?**

— У Драгічыне, напрыклад, яшчэ пры СССР валявым рашэннем Масквы было распачата будаўніцтва завода, які павінен быў забяспечыць усю краіну цэлазінам — кармавым антыбіётыкам. Але вакол гэтай будоўлі разгарэўся скандал — супраць яе выступілі прыродаахоўныя арганізацыі, і будаўніцтва было замарожана. Час рабіў сваё, паўузведзеныя карпусы пачалі разбурацца, і было вырашана менавіта на гэтай базе ўводзіць, па сутнасці, новы завод, які будзе вырабляць ампіцылін, стрэптаміцын, медыцынскую аскарбінавую кіслату.

**— Калі ён павінен увайсці ў строй?**

— Тармозіць будаўніцтва ўсіх фармацэўтычных прадпрыемстваў недахоп сродкаў. На будаўніцтва гэтых аб'ектаў мы прасілі на пачатку года 200 мільярдаў рублёў, выдзелілі ж нам у пяць разоў менш. А калі яшчэ ўлічыць галапіруючую інфляцыю (у студзені курс долара складаў 6—7 тысяч безнаяўных «зайчыкаў», зараз — 26 тысяч), дык фактычна сёння мы маем на ўсе выдаткі, звязаныя з будаўніцтвам, 10—11 мільярдаў рублёў. І, баюся, усё гэта прывядзе да таго, што будаўніцтва фармацэўтычных прадпрыемстваў расцягнецца на вельмі доўгі тэрмін. А, значыць, з пераадоленнем дэфіцыту лекаў прыйдзецца пачакаць.

**— Відаць, павелічэнне выпуску сваіх лекавых прэпаратаў магло б «збіць» цэны ў аптэках?**

— Увогуле, павінна быць так, хоць і тут не ўсё проста. Важна дамагчыся невысокага сабекошту прадукцыі. Многае тут залежыць ад таго, у якіх умовах давядзецца нам працаваць. Напрыклад, у Злучаных Штатах Амерыкі фармацэўтычныя прадпрыемствы карыстаюцца вялікімі льготамі ў падаткаабкладанні, у нас жа завод, які выпускае лекі, плаціць такія ж падаткі, што і, скажам, завод халадзільнікаў, ці трактарны завод. Адным словам, аб рэжыме найбольшага спрыяння нашай галіне з боку дзяржавы мы можам пакуль што толькі марыць.

**— Як на мой розум, Аляксандр Аляксандравіч, у фармацэўтычнай вытворчасці павінна быць высокая аддача на ўкладзеныя сродкі. Я чытаў, што Індыя, увогуле не вельмі развітая індустрыяльная краіна, менавіта за кошт вытворчасці і экспарту лекаў мае вялікія валютныя прыбыткі. Калі ў нашай рэспубліцы не хапае сродкаў на развіццё гэтай галіны, мо трэба было б парупіцца аб замежных інвестарах?**

— Мы ў гэтым напрамку працуем, але далёка не ўсё ўдаецца. Справа ў тым, што большасць замежных фірм, звязаных з вытворчасцю лекавых прэпаратаў, самі шукаюць рынкі збыту. Першае, з чаго пачынаюць прадстаўнікі гэтых фірм, калі прыязджаюць да нас, гэта з угавораў купіць іх лекі.

**— Калі я пазваніў у вашу прыёмную, каб дамовіцца аб сустрэчы, мне сказалі, што вы заняты, бо прымаеце італьянскую дэлегацыю.**

— І яны таксама цікавіліся, ці купім мы іх лекавыя прэпараты. Што тычыцца ўкладання сродкаў у нашу фармацэўтычную прамысловасць, дык па гэтых пытаннях вяліся перамовы і з кітайцамі, і з немцамі, зараз наладжваем кантакты з некаторымі фірмамі Славеніі. Мы гатовы прапанаваць любыя зручныя для нашых замежных партнёраў умовы, пайсці на стварэнне сумесных прадпрыемстваў, і неабавязкова, каб яны нават былі дзяржаўнымі. Але многія замежныя фірмы не рызыкуюць рабіць у нас свае інвестыцыі. Там умеюць лічыць грошы, і адразу патрабуюць гарантый, што з імі разлічацца да капейчыны. Калі ў вас ёсць валюта, кажуць яны, мы можам вам паставіць любую самую складаную тэхналогію, любое абсталяванне, забяспечым падрыхтоўку вашага персанала. Мала таго, сваімі сіламі ўсё і пабудуем.

**— А калі проста ўзяць пад гэтае будаўніцтва замежныя крэдыты?**

— Крэдыторы таксама розныя бываюць. Калі гэта немцы, дык яны ставяць умовай прадстаўлення крэдыту абавязковы ўдзел сваіх фірм у будаўніцтве аб'ектаў.

**— Так што, як я разумею, у бліжэйшай будучыні (ці толькі ў бліжэйшай?) нам наканавана вялікую частку найбольш каштоўных лекаў імпартаваць. Ды, відаць, і некаторыя лекавыя інгрэдыенты?**

— Іх таксама даводзіцца завозіць з-за межаў рэспублікі. Я, здаецца, не гаварыў, што частку сваіх лекаў мы абменьваем па бартэры ў некаторых краінах СНД на лекавыя сродкі, якія ў нас не выпускаюцца. Так, напрыклад, у былым Савецкім Саюзе тэтрацэклін выраблялся толькі ў Беларусі. Нам такой колькасці — каля 130 тон у год — не трэба і мы частку яго выкарыстоўваем у якасці бартэрнага абмену.

**— У свой час я пісаў пра развядзенне жэньшэню ў нас на Беларусі, у прыватнасці, пад самым Мінскам у саўгасе «Мінская гароднінная фабрыка». Мясцовы аграном, які некалькі гадоў назад на свой страх і рызыку заклаў плантацыю жэньшэню, помню, скардзіўся мне на вялікія цяжкасці са збытам вырошчанай прадукцыі, якая, па сведчанні спецыялістаў, не саступае па якасці славутаму далёкаўсходняму жэньшэню.**

— Я знаёмы з усёй гэтай гісторыяй. А што было рабіць, калі саўгас запрасіў за свой жэньшэнь страшэнна высокую цану? Вяла з ім тады перамовы Барысаўская фармацэўтычная фабрыка, ды так у цане і не сышліся. Мы падлічылі, што калі купляць той жэньшэнь за прапанаваную саўгасам цану, флакон настойкі гэтага прэпарата будзе каштаваць у аптэцы каля 10 тысяч рублёў. Хто ж яго купіць, калі сярэдняя зарплата тады па рэспубліцы складала 50 тысяч рублёў.

**— Але ж жэньшэнь — гэта жэньшэнь, нездарма ж яго называюць «коранем жыцця».**

— Не перабольшвайце яго магчымасці. Гэта толькі біялагічны стымулятар, а не нейкая панацэя ад усіх хвароб, як некаторыя недасведчаныя людзі ўяўляюць. Я наогул з пэўным скепсісам адношуся да размоў аб цудах усходняй медыцыны, той жа кітайскай або тыбецкай. Калі яна і дапамагае, дык, відаць, у першую чаргу абарыгенам, якія гістарычна адаптаваны да мясцовых умоў, мясцовай флоры і фаўны, адкуль усходняя медыцына чэрпае многія лекавыя сродкі.

**— Я пазіраю, Аляксандр Аляксандравіч, на выстаўленыя ў вашым кабінеце шматлікія бутэлечкі і каробачкі для лекаў і не магу ўтрымацца ад сумнай думкі, што гэта наша адвечная хвароба — не можам паказаць тавар «лицом». Бывае, што і якасць у нас не горшая, чым у замежнага, а ўзяць у рукі не хочацца — настолькі непрывабны знешні выгляд мае.**

— Вы маеце рацыю. Дарэчы, ніякай тары для лекавых прэпаратаў, ампул і да т. п. у нашай рэспубліцы раней не выраблялі. Нават алюмініевыя каўпачкі для бутэлечак завозілі здаля. Ці будзем мы ўсё гэта зараз вырабляць самі. У рэшце рэшт, ніводная, нават эканамічна развітая краіна ў свеце не вырабляе ўсяго. Але, тым не менш, зараз маркуецца ўсё-такі на базе існуючых беларускіх шклозаводаў арганізаваць выраб медыцынскай шклятары са спецыяльнага нейтральнага матэрыялу.

**— Дзякуй, Аляксандр Аляксандравіч, за цікавую інфармацыю.**

— У газетным інтэрв'ю цяжка ахапіць усе праблемы такой складанай справы, як стварэнне айчыннай фармацэўтычнай прамысловасці. Але пра галоўныя аспекты гэтай тэмы, мне здаецца, нам паразмаўляць удалося. Упэўнены, што, нягледзячы на цяжкасці, беларускім лекам — быць!

ЛіМ
ЧАСАПІС



## «ЗНІЧ» — ЛАРЫСЕ ГЕНІЮШ

Ёсць у Ларысы Геніюш верш «Белы сон». Ён стаў адным з твораў, што ўвайшоў у апошнюю, трэцюю па ліку прыжыццёвую кнігу паэзіі Ларысы Антонаўны «На чабары настоена», якая выйшла ў 1982 годзе (не прымаючы пад увагу зборнікаў для дзяцей). Ён жа даў назву аднатомніку яе вершаў і паэм, укладзенаму Б. Сачанкам і выпушчанаму ўжо ў 1990 годзе.

Нарэшце, «Белы сон» — гэта монаспектакль паводле «Споведзі» Л. Геніюш у выкананні знакамітай Галіны Дзягілевай.

9 жніўня ў Беларускім паэтычным тэатры аднаго акцёра «Зніч» спектакль гэты адбыўся ў чарговы раз. Можна сказаць, у крыху незвычайнай атмасферы: праходзіла вечарына памяці выдатнай Паэтэсы, дзеяча нацыянальнага Адраджэння, ці не найбольш яркага прадстаўніка з кагорты тых слынных БЕЛАРУСАЎ, каго не маглі зламаць ніякія абставіны:

### БЕЛЫ СОН

Толькі неба здалёк
у мігатлівым маку.
І скрыпіць пад нагамі пясок,
і гамоняць з марозам сабакі.

Недзе месяц брыдзе наўздагад.
Беляхціць пад сумётамі поле.
Цемень ночы на нечы загад
пахавалася
соснам пад голле.

Праз рассеяны месячны свет
з нерассеянай шчыраю верай
у бясконцы ж
жыццяў запавет
крочу --
сілам не ведаючы меры.

...Праляцелі,
прабеглі гады.
Сэрца непагадзі
не забудзе.

А здавалася — дужай —
тады,
што на свеце харошыя людзі.

На сцэне праз гэты дзіўны «белы сон» і ажывала пражытае і перажытае Л. Геніюш, высвечвалася праз бела-чорны фон. І паўстала жыццё, вартае прыкладу. І ажывалі старонкі творчасці, якая, на жаль, пакуль прыйшла да чытача далёка не ў поўным аб'ёме. Дапаўненнем да монаспектакля сталі ўспаміны тых, хто ведаў Ларысу Антонаўну. Ведаў і не баяўся наведвацца да яе, хоць на той час гэта магло дорага каштаваць. Выступалі паэт Алесь Разанаў, гісторык Міхась Чарняўскі, мастак Мікола Купава, міністр культуры і друку Рэспублікі Беларусь Анатоль Бутэвіч і намеснік міністра Генадзь Бураўкін... А на завяршэнне вечара-памяці слова сказала старшыня жаночага хрысціянска-дэмакратычнага руху Беларусі Людміла Пеціна.

## ПА МЯСЦІНАХ «ШЛЯХЦІЦА ЗАВАЛЬНІ»

У маляўнічых мясцінах на Расоншчыне, звязаных з імем Яна Баршчэўскага і героям яго кнігі «Шляхціц Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданнях», пабывалі літаратары Полацка, Наваполацка, Мінска. Вандроўка была арганізавана літаратурнымі аб'яднаннямі «Крыніцы» і «Наддзвінне». Удзельнікі вандроўкі мелі сустрэчу з сельскімі жыхарамі. Уважліва слухалі прысутныя выступленні Германа Кірылава, Лявона Баршчэўскага, Навума Гальпяровіча, Пятра Васючэнкі і іншых.

Вынікам вандроўкі стане выстава, прысвечаная 200-годдзю з дня нараджэння пісьменніка. Яна намечана ў старажытным Полацку на восень.

Р. ВЕЖНАВЕЦ

## У «ШКОЛЬНАЙ БІБЛІЯТЭЦЫ»

пабачыла свет чарговая кніга. Гэтым разам выдавецтва «Юнацтва» выпусціла аднатомнік Анатоля Кудраўца, змест якога склалі раман «Сачыненне на вольную тэму» і аповесць «Раданіца». Гэтыя творы знакамітага празаіка добра вядомы чытачу. Найперш яны прываблiваюць тым, што аўтар праз вобразы галоўных герояў (найбольш каларытным атрымаўся Ігнат Сцяпанавіч Вапшчэтка з «Сачынення на вольную тэму») паказвае складанасць сучаснага жыцця, драматычнасць яго пачсядзённых калізій.

Творы адрасуюцца чытачам старэйшага школьнага ўзросту.

Сярод кніг

***Апошнім часам вучоныя, публіцысты і пісьменнікі шмат зрабілі па вяртанні беларускаму народу яго гістарычнай памяці, духоўнай спадчыны, якія стагоддзямі знаходзіліся пад забаронай ці падаваліся ў сфальсіфікаваным выглядзе. І ўсё ж голад на гістарычную, асабліва сур'ёзную, літаратуру існуе. Выдавецтвы, рэдакцыі газет і часопісаў не да канца задавальняюць заканамернае жаданне шырокіх чытацкіх колаў глыбей і паўней ведаць сваё мінулае. Таму зусім заканамерна, што на паліцы кнігарняў трапляе і гістарычная літаратура, выдадзеная раней, але якая, па вядомых прычынах, не мела распаўсюджвання ў нас у рэспубліцы. Аўтарамі такой літаратуры, як здагадваецца чытач, найперш з'яўляюцца прадстаўнікі беларускай дыяспары. Пра адну з такіх публікацый мне і хочацца павесці размову. Гэта кніга Язэпа Найдзюка і Івана Касяка «Беларусь учора і сяння», якая выйшла летась у выдавецтве «Навука і тэхніка» дзякуючы старанням Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны і за яго кошт.***

# ТЫЛЬНЫЯ СТАРОНКІ ГІСТОРЫІ

Леанід ЛЫЧ

Спачатку колькі слоў пра самых аўтараў, бо без гэтага не зразумець прычыны адметнасці іх поглядаў на многія важныя падзеі ад трывала і даўно зафіксаваных у афіцыйнай беларускай савецкай гістарыяграфіі. Першы з іх да 1939 г. выдаваў у Заходняй Беларусі часопіс «Шлях Моладзі», выпусціў у 1940 г. папулярны гістарычны нарыс «Беларусь учора і сяння», а ў акупаваным фашыстамі Мінску працаваў у выдавецтве падручнікаў для беларускіх школ Генеральнага школьнага інспектарыята; другі — загадваў аддзелам культуры Беларускай народнай самапомачы, у час правядзення ў чэрвені 1944 г. у Мінску Другога усебеларускага кангрэса быў намеснікам яго старшыні. На момант паўторнага выдання згаданага гістарычнага нарыса ён быў значна папоўнены новымі матэрыяламі, і ў 1944 г. выйшаў у свет пад сваёй ранейшай назвай. Кніга заканчвалася падзеямі, звязанымі з далучэннем Заходняй Беларусі да БССР. Прыкладна праз тры дзесяцігоддзі да кнігі Я. Найдзюка напісаў другую частку І. Касяк.

Жыццёвы шлях аднаго і другога аўтараў, асабліва датычнасць да дзейнасці акупацыйнай адміністрацыі, у многім адбіўся на іх ацэнцы гістарычных падзей. І сапраўды, ці ж мог Я. Найдзюк, рыхтуючы да друку кнігу ў захопленым немцамі Мінску, сказаць у ёй штосьці такое, што супярэчыла б ідэалогіі новых гаспадароў Беларускага краю? Да таго ж за аўтарам пільна сачыла вока кіраўніка выдавецтва школьных падручнікаў і літаратуры для моладзі, польскага немца І. Сівіцы, які пастараўся зрабіць усё, каб нарыс па гісторыі Беларусі як мага паўней адпавядаў мэтам і задачам ідэалагічных службаў акупацыйных улад. Аднак і працуючы ва ўмовах «Пракрустаавага ложка» Я. Найдзюк змог выдаць даволі цікавую кнігу, у якой можна знайсці шмат арыгінальнага гістарычнага матэрыялу, нестандартных ацэнак падзей з мінуўшчыны нашай Бацькаўшчыны. Знаёмства з рэцэнзуемай кнігай зусім не лішнім будзе занятакм для ўсіх тых, хто прагне лепш ведаць нацыянальную гісторыю. Аўтар у належнай ступені выявіў сваю эрудыцыю, уменне ў папулярнай форме гаварыць пра самыя складаныя рэчы. Чытаючы яго кнігу, выносіш цвёрдае ўражанне, што беларуская гісторыя — гэта не складовая частка расійскай, а зусім адмысловая, адметная з'ява ў агульнагістарычным працэсе. У адрозненне ад падручнікаў Л. Абэцэдарскага, у ёй не сустрэнеш чагосьці такога, што сведчыла б аб нібыта спаконвечным жаданні беларусаў жыць пад крылом рускага народа ці адсутнасці ў іх патрэбы да развіцця культурных сувязей з краінамі Цэнтральнай і Заходняй Еўропы.

Марнай тратай часу былі б пошукі ў кнізе Я. Найдзюка яўна сфальсіфікаваных фактаў адносна беларуска-рускіх узаемадачыненняў з мэтай стварэння міжнацыянальнага напружання ці канфліктаў. Яны падаюцца такімі, як складваліся на самой справе. Ці ж можна запярэчыць такому сцвярджэнню: «Маскоўскі князь, называючы сябе «Гасударам усяе Русі», хацеў валодаць не толькі расейскімі, але беларускімі і ўкраінскімі землямі. Прэтэнзіі Масквы да беларускіх земляў былі прычынаю змагання Масквы з Вялікім Княствам, якое асабліва завастрылася, пачынаючы ад XIV стагоддзя» (с. 51). На гора двум народам гэтае змаганне цягнулася вельмі доўгі час, вылілася ў 1514 г. у Аршанскую бітву, пра якую не абмінуў сказаць і Я. Найдзюк.

Беручы ў рукі кнігу, што з'явілася на свет у час фашысцкага акупацыйнага рэжыму, мяне вельмі цікавіла, як жа ў ёй адлюстраваны беларуска-нямецкія дачыненні, ці не занадта сфальсіфікаваў іх аўтар, працуючы ў зусім неспрыяльных для сур'ёзнай навукі ўмовах? Асабліва сур'ёзных адхіленняў ад аб'ектыўнасці я не знайшоў, хаця яго погляды на гэтае пытанне часткова і не супадаюць з тым, што даводзілася раней чытаць у працах гісторыкаў нашай краіны. Датычыць гэта, да прыкладу, палітычных і гандлёвых адносін у перыяд ранняга сярэднявечча, калі паміж гэтымі двума народамі ўсталяваўся вольны бязмытны правоз тавараў (абмежаванні ўведзены з канца XIV ст.); прыходу немцаў на дапамогу Андрэю Полацкаму, Вітаўту і Свідрыгайлу ў іх змаганні супраць польскага націску; дазволу нямецкага камандавання ў час Першай сусветнай вайны на адкрыццё беларускіх школ; прызнання нямецкім фельдмаршалам Гіндэнбургам у студзені 1916 г. беларускай мовы раўнапраўнай з іншымі мовамі нашага краю. Разам з тым Я. Найдзюк не ўхіляецца ад паказу адмоўных з'яў у беларуска-нямецкіх дачыненнях, у прыватнасці дае негатыўную ацэнку агрэсіўным планам ордэнаў мечаносцаў і тэўтонаў, лічыць, што з прычыны адмовы ў красавіку 1918 г. імператара Нямеччыны Вільгельма II прызнаць Раду Беларускай Народнай Рэспублікі пачаўся яе падзел на групоўкі.

З аб'ектыўных пазіцый паказаны беларуска-польскія дачыненні. Прыводзяцца шматлікія і пераканаўчыя факты аб сталым імкненні нашай недружалюбнай заходняй суседкі да пашырэння свайго ўплыву на палітыку Вялікага княства Літоўскага, што асабліва шырокія маштабы набыло пасля падпісання ў 1569 г. Люблінскай уніі. Падрабязна разглядаецца моўная сітуацыя ў створаным на падставе гэтай уніі федэратыўным утварэнні. Наўрад ці хто будзе аспрэчваць такую слушную выснову Я. Найдзюка: «Забарона ж ужываць беларускую мову ў урадах, судах і ўсяляких урадавых установах як у справаводстве, так і ў карэспандэнцыі была найвялікшым ударам для беларускага народа і беларускае дзяржаўнасці, даводзячай яе да заняпаду» (с. 115). На жаль, такі ўдар давялося нам добра зведаць у 50—80-я гады XX ст., ад чаго яшчэ і сёння ледзь стаім на нагах. Вялікую пашану аўтар мае да вяскоўцаў, якія паказалі сябе найбольш устойлівымі ў той працяглы перыяд адкрытай і патаемнай паланізацыі: «Беларускія сяляне не зважалі на ніякія здзекі і праследы. Яны моцна трымаліся сваёй мовы, рэлігіі...» (с. 116). Чытаючы такія радкі, мімалі пачынаеш шкадаваць, што сёння ў нас няма такога апантанага нацыянальнымі традыцыямі сялянства. Калектывізацыя, бальшавіцкая палітыка па зліцці нацый зрабілі і яго квазіінтэрнацыяналістамі.

Вельмі лаканічны Я. Найдзюк пры асвятленні ўсіх трох падзелаў Рэчы Паспалітай. Але яго выснова, што ў выніку такіх актаў самых магутных еўрапейскіх дзяржаў «з-пад польскага панавання Беларусь трапіла пад панаванне расейскае», усё ж дастаткова добра аргументавана. У кнізе досыць матэрыялу, які сведчыць аб занядбаным становішчы беларускага народа ў складзе Расійскай імперыі і не дае аніякіх падстаў гаварыць пра прагрэсіўнасць яго ўключэння ў межы апошняй, аб чым такі доўгі час настойліва сцвярджалі руская, савецкія, у т. л. і беларуская, гісторыкі афіцыйнага толку.

Хацеў бы папярэдзіць чытача не імкнуцца шукаць у разглядаемай кнізе гэтак уласцівых беларускай савецкай гістарыяграфіі сюжэтаў аб дзейнасці КП(б)Б, прафсаюзаў, камсамола па мабілізацыі працоўных мас на датэрміновае выкананне пяцігодак, аб авангарднай ролі рабочага класа ў сацыялістычным будаўніцтве, ажыццяўленні ленінскай нацыянальнай палітыкі, павышэнні матэрыяльнага дабрабыту насельніцтва і г. д. Затое нямала сустракаецца ў ёй такога, чаго пазбягалі ці дужа фальсіфікавалі прадстаўнікі афіцыйнай гістарычнай навукі, а іменна: дзейнасць дзяржаўных органаў Беларускай Народнай Рэспублікі, жыццё беларускай міжваеннай эміграцыі, нацыянальна-беларускі рух у БССР, змаганне сялян супраць суцэльнай калектывізацыі, мэтанакіраваная русіфікацыя беларусаў...

Другая частка кнігі напісана І. Касяком і прысвечана пераважна Другой сусветнай вайне і дае досыць фрагментарны паказ пасляваеннага часу. Тут аўтара вельмі лёгка зразумець: ён быў не проста сведкам, а актыўным удзельнікам многіх няпростых падзей ваеннага часу, працуючы ў створаных акупантамі адміністрацыйных органах. Гэта трэба разглядаць у якасці асноўнай прычыны і яго разыходжанняў з савецкімі беларускімі гісторыкамі па большасці прынцыпова важных пытанняў акупацыйнага рэжыму. Бясспрэчна, у кагосьці можа ўзнікнуць пытанне: а ці існавала патрэба ў час, калі беларускі народ адзначае пяцідзесяцігоддзе свайго вызвалення ад фашысцкай няволі, выдаваць кнігу, у якой не ўсё падаецца так, як нам дзесяцігоддзямі паказвалі пра гэтыя і герайчныя, і трагічныя старонкі гісторыі? Я лічу, што існавала такая патрэба. Сённяшні адукаваны чытач павінен ведаць, што пішуць пра вайну і акупацыю не толькі з пазіцый камуністычнай, савецкай ідэалогіі, але і процілеглага ёй боку. Вельмі дрэнна, што апошняга роду літаратуру мы пачалі выдаваць з такім вялікім спазненнем і не дазволілі многім, хто перажыў той жахлівы час, пазнаёміцца з тым, як глядзелі на яго людзі, што добраахвотна ці пад прымусам працавалі на акупантаў і, значыцца, маглі мець зусім адрозныя ад іх мэты на лёс беларускага народа.

Пры ўсёй неадпаведнасці многіх палажэнняў другой часткі кнігі традыцыям беларускай літаратуры аб вайне з Германіяй чытаць Івана Касяка цікава і карысна, бо знаходзіш у яго шмат чаго такога, што адсутнічае ў айчынных публікацыях. Дзякуючы яго стараннем паглыбляеш, удакладняеш раней атрыманыя веды па гэтай небывала жорсткай у гісторыі нашага краю трагедыі. Тут можна спаслацца ў якасці прыкладу на старонкі, дзе гаворыцца, у якіх няпростых умовах старшыня Рады БНР В. Захарка і доктар І. Ермачэнка вялі напярэдадні нападу Германіі на СССР перамовы з высокапаcаднымі нямецкімі дзеячамі аб забеспячэнні Беларусі дзяржаўнай незалежнасці ў выпадку поспеху на ўсходнім фронце. У неабходных выпадках, як піша І. Касяк, гэтай ідэяй цешыла нямецкае камандаванне і простых беларусаў. На дамах і платах беларускіх населеных пунктаў немцы спецыяльна вывешвалі «загадзя выдрукаваныя вялікія абвешчанні на нямецкай і беларускай мовах. На гэтых абвешчаннях падавалася аб вызваленні Беларусі ад бальшавізму нямецкімі войскамі, а Беларусь абвяшчалася жыццёвым абшарам беларускага народа».

У аўтара ўсё ж ёсць зусім бяздоказныя сцвярджэнні, што нібыта «ў многіх мясцовасцях насельніцтва было змушанае гвалтам ісці ў бежанцы на ўсход» (с. 258), што «ад нямецкага бамбардавання з самалётаў Менск пацярпеў няшмат. Аднак увесь горад, за выняткам прыгарадаў, згараў ад падпалаў савецкімі сэпаддзеламі» (с. 259), што «ў Віцебску гарадскую турму з 200 вязнямі НКВД спаліла жыўцом» (с. 259). Памыляецца І. Касяк, калі піша: «Сяляне адразу па ўцечцы бальшавікоў распачалі дзяліць калгасную зямлю і рухомую маёмасць ды вяртацца да аднаасабовай» (с. 264). Такое з дазволу акупацыйных улад праводзілася значна пазней.

Шмат старонак кнігі адведзена фармаванню і практычнай дзейнасці органаў мясцовай улады, што, дарэчы, вельмі слаба асветлена ў нашай гістарычнай літаратуры. Нельга не пагадзіцца з аўтарам, калі ён піша пра небяспеку, якую магло б прынесці беларускай справе актыўнае ўключэнне ў працу такіх органаў палякаў. З іх боку былі праяўлены вельмі вялікія намаганні, і ў Заходняй Беларусі яны многа дзе прыйшлі да ўлады і кіравалі тут з такой жа жорсткасцю, як і ў даваенны час. Паслухаем самога І. Касяка: «Калі ж мясцовыя беларусы рабілі захады перад немцамі аб змене польскай адміністрацыі на беларускую, то палякі ўдавалі іх немцам як камуністаў, і тыя загадвалі страляць беларусаў. У далейшым палякі самі вымардоўвалі беларускі нацыянальны актыў на месцах па ўсёй Заходняй Беларусі» (с. 263).

Вялікую шкоду, як вынікае са зместу кнігі, беларускаму нацыянальнаму інтарэсу прычыніла і распачатая ўкраінізацыя насельніцтва Берасцейшчыны, Піншчыны і Гомельшчыны, якія ўваходзілі ў склад Генеральнага камісарыята Украіны. Спробы ўкраінізацыі рабіліся нават і на тэрыторыі Беласточчыны і Гарадзеншчыны, якія адышлі да Усходняй Прусіі. Каб спыніць такога роду антыбеларускія дзеянні, даводзілася звяртацца па дапамогу да нямецкай адміністрацыі. Украінізацыя ахапіла і беларускія вайсковыя

падраздзяленні, у прыватнасці Кобрынскі батальён N 104. З гэтай мэтай у яго тысячны склад жаўнераў і афіцэраў увялі 150 украінцаў з Галіцыі. Нягледзячы на сваю колькасную меншасць, «яны, — чытаем у І. Касяка, — вывешвалі на ўрадавай дошцы абвесткі на ўкраінскай мове і аб украінскай справе. Да гэтага часу ўсе абвесткі рабіліся на беларускай мове. Беларусы зрывалі і нішчылі абвесткі на ўкраінскай мове і жадалі захавання беларускай мовы ва ўнутраным жыцці батальёна» (с. 322).

Аўтар не супярэчыць ісціне, калі піша пра невыноснае жыццё ў лагерах для ваеннапалонных, у яўрэйскіх гета ці крытыкуе ўчыненьі фашыстамі адміністрацыйны падзел Беларусі. У многіх адносінах новым для нашай гістарыяграфіі фашысцкай акупацыі і да таго ж аб'ектыўным з'яўляецца паказ І. Касяком рэлігійнага жыцця ў тагачаснай Беларусі, дзейнасці судовых органаў, прэсы, выдавецтваў, культурнаасветных устаноў, даволі сур'ёзных і прынцыповых спрэчак паміж нямецкай цывільнай і беларускай адміністрацыямі.

Затое зусім не супадаюць з афіцыйнай канцэпцыяй погляды І. Касяка на партызанскі рух. Яго ўзнікненне ён цалкам звязвае з воляй урада СССР у Маскве і лічыць, што мэтай такога руху, пазначаным як «савецкая партызанская дыверсія на Беларусі», «была не абарона беларускага народа ад гвалтаў нямецкай акупацыі, але дапамога савецкім арміям аднавіць уладу маскоўскага ўрада на Беларусі» (с. 285); што «на пачатку партызаны не мелі падтрымкі мясцовага насельніцтва, народ добраахвотна не далучаўся да іх» (с. 287). Якіх-небудзь канкрэтных фактаў у пацвярджэнне такой думкі не сустрэнеш у аўтара, таму паверыць ёй вельмі цяжка. А вось наступнаму меркаванню І. Касяка: «Дапамагла партызанцы каланіяльная нямецкая палітыка на Беларусі, паніжаючае і пагардлівае трактаванне беларускага насельніцтва, як і прадбачальны стан нявольніцтва ў будучыні. Гэта падштурхоўвае мясцовае насельніцтва, асабліва на Усходняй Беларусі, назад да савецкай улады як да меншага зла» (с. 288), думаю, не стануць пярэчыць гісторыкі, што стаяць на пазіцыях камуністычнай інтэрпрэтацыі партызанскай барацьбы. Не ўзнікнуць у іх спрэчкі з І. Касяком і ў тым, як ён раскрывае антыбеларускую дзейнасць польскай Арміі Краёвай на нашай зямлі.

Пэўным адкрыццём для многіх, каго цікавіць жыццё падчас акупацыі, стане азнаямленне з тымі месцамі ў кнізе, дзе размова пра заснаваную ў самім нямецкім логавішчы Беларускую незалежную партыю, спешную эвакуацыю на Захад тых, хто меў дачыненне да службы ў створаных немцамі адміністрацыйных органах і рознага роду ўстановах; пра Беларускую Цэнтральную Раду ў Нямеччыне, беларускіх жаўнераў з 30-й дывізіі Зіглінга, арганізацыю 1-га кадравага батальёна БКА ў Берліне, штурмавой брыгады «Беларусь» і г. д. Канкрэтныя факты прыводзяцца і пра пачатак рэпрэсіўных акцый савецкіх органаў у першыя дні і месяцы па вызваленні Беларусі, што, па вядомых прычынах, не трапіла на старонкі афіцыйнай гістарычнай літаратуры. Словам, праца І. Касяка ў многім пашырае нашы веды пра невыноснае жыццё беларусаў у гады акупацыі. І добра, што ў нас нарэшце з'явілася магчымасць чытаць пра яго кнігі самых розных аўтараў. Не сумняваюся, што, знаёмячыся з такімі публікацыямі, людзі змогуць аддзяліць праўду ад хлусні, разабрацца, па чыёй віне ў гэтай бойні загінуў кожны чацвёрты беларус.

І. Касяк практычна зусім ухіліўся ад паказу самаахвярнай стваральнай працы беларускага народа па аднаўленні і развіцці сваёй гаспадаркі ў пасляваенны перыяд. Калі што і гаворыцца пра гэты час, дык толькі ў плане паказу паглыблення залежнасці БССР ад Масквы, узмацнення палітыкі русіфікацыі беларусаў. Нельга не адзначыць, што пры азнаямленні з фактамі такой палітыкі (па зразумелых прычынах, у беларускай савецкай гістарыяграфіі яны цалкам адсутнічаюць) зведваем велізарную спагаду да свайго народа за незаслужаную крыўду яго, моцна задумваемся, чаму чужыя сілы так перашкаджалі здзяйсненню яго заканамернага імкнення быць гаспадаром ва ўласным доме? Спашлюся толькі на такую інфармацыю з кнігі: «У 1951 годзе ўрад БССР у ліку 33 асоб складаўся з 22 расейцаў, І жыда, І грузіна і 9 беларусаў. У сакавіку 1952 года міністрам дзяржаўнай бяспекі (МГБ) быў прызначаны М. Баскакаў», расеец па нацыянальнасці (с. 343). Вось толькі А. Кляшчова (з 1948 г. Старшыня Савета Міністраў БССР) і В. (у кнізе памылкова — Б.) Казлова (з 1948 г. Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР), здаецца няма падстаў залічваць, як гэта робіць І. Касяк, да рускай нацыі. Адной з формаў русіфікацыі ён лічыць накіраванне выпускнікоў ВНУ і тэхнікумаў іншых рэспублік у БССР і адваротны гэтаму працэс, пасылку беларускага насельніцтва ў Казахстан на асваенне цалінных і абложных земляў, прыводзячы даволі ўнушальныя лічбы: у 1956 г. у цалінныя раёны гэтай рэспублікі накіравалі з БССР 30 тыс. чалавек моладзі (с. 346). Лічу, што беспамылкова вызначана І. Касяком у пасляваеннай Беларусі роля рускай мовы як урадавай, у чым ім бачыцца найважнейшы фактар русіфікацыі яе карэннага насельніцтва.

Да несумненных вартасцей кнігі можна аднесці наяўнасць у ёй храналагічнай табліцы, спісу выкарыстанай літаратуры, ілюстрацый і карт. Чытанне яе аблягчаецца тым, што кожны раздзел разбіты на падзагалоўкі, з якіх добра вынікаюць характэрныя для таго ці іншага гістарычнага перыяду з'явы і падзеі.

# ЯНА — ВЫЖЫВЕ!

Пакрысе ўсе мы ачуньваем ад сну нацыянальнага бяспамяцтва. Доўгім быў ён, таму і прабуджэнне такое цяжкае. Здаровы арганізм нацыі, безумоўна, пераадольвае яго вынікі. На жаль, нямала і тых, каму вельмі ж добра пачувалася ў час, калі беларуская мова выціскалася з паўсядзённага ўжытку, не выкладалася ў школах, тэхнікумах і ВНУ. Гора-інтэрнацыяналісты, зважаючы на тое, што народ наш надзіва талерантны, зноў акрыялі, на ўзбраенне ўзялі лозунг дзяржаўнага двухмоўя.

У многіх сродках масавай інфармацыі, у выступленнях асобных народных дэпутатаў актыўна прапагандуецца ідэя канстытуцыйна замацаваць на Беларусі статус дзяржаўнай мовы не толькі за беларускай, але і за рускай. Апошнім жа часам «інтэрнацыяналісты» мусоляць ідэю: правесці ўсенародны рэфэрэндум. Маўляў, сам народ мусіць выбраць, якая мова павінна быць у Рэспубліцы Беларусь дзяржаўнай.

Да думкі народа, зразумела, прыслухоўвацца трэба. Але дзеля гэтага няма аніякай патрэбы праводзіць сумніцельныя рэферэндумы, якія абыдуцца, да таго ж, таму самаму народу не ў адзін мільярд рублёў. Проста варта ўважліва прыслухацца да меркавання, што выказваюць па гэтым пытанні нацыянальна свядомыя беларусы ў сваіх тэлеграмах, лістах, дасланых на адрас Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, урада, Камісіі па культуры, адукацыі і захаванні гістарычнай спадчыны Вярхоўнага Савета.

А зрабіць гэта не так і складана. Дастаткова пазнаёміцца са зборнікамі, падрыхтаванымі Таварыствам беларускай мовы імя Францішка Скарыны (пад рэдакцыяй Н. Гілевіча, яго ж укладанне) і выпушчаных выдавецтвам «Навука і тэхніка». Да першага з іх «Голас народа — голас божы» Н. Гілевіч, як старшыня згаданай камісіі Вярхоўнага Савета і старшыня ТБМ, напісаў прадмову «Сведчанне волі народа». «Горка і сумна бачыць, — канстатуе знакаміты грамадскі дзеяч і пісьменнік, — што адраджэнню беларускай мовы і культуры супраціўляюцца многія беларусы або людзі іншых нацыянальнасцей, якія з нараджэння жывуць тут і для якіх Беларусь зусім не мачаха, а добрая маці. Якіх толькі тэарэтычных і палітычных і эканамічных падкладак не мосцяць яны пад гэтае сваё негатыўнае стаўленне да ідэі адраджэння Беларусі, да працэсу беларусізацыі ўсяго жыццёвага ўкладу рэспублікі! Колькі сіл і часу трацяць на гэта ганебнае змаганне з нашым адраджэннем людзі, якія маюць дыпломы аб вышэйшай адукацыі і нават навуковыя званні — людзі, якім і сам Бог казаў быць у такіх справах добрым прыкладам для іншых: хто-хто, а яны павінны разумець, што значыць мова для лёсу народа, — начытаныя ж, адукаваныя, інтэлігентныя! І Тургенева працытуюць, і Талстога, і Дастаеўскага — як трэба шанаваць родную мову. А Купалу ці Гарэцкага працытаваць не хочуць. Не хочуць, бо — для чаго? У іх іншыя інтарэсы, іншыя мэты. Ні Купалу, ні Коласа, ні Багдановіча, ні Гарэцкага яны і ў руках не трымалі. Яны «ловяць» пад сацыялагічны аловак няшчасных нашых аднапляменцаў, тых, у каго ў душы вытравілі за дзесяцігоддзі пачуццё нацыянальнай годнасці, каго з маленства пазбавілі роднай школы і роднай кнігі, — ловяць і вяшчаюць: глядзіце, сам народ за дзяржаўнае панаванне расійскай мовы на Беларусі!».

«Запасы цынізму, — гаворыць у заключэнне Н. Гілевіч, — у іх вялікія — дык галасы іх яшчэ будуць скрыпець доўга. Аж пакуль не зразумеюць шаноўныя: тое, што здарылася ў 30-я, калі спроба беларускага нацыянальнага адраджэння была бязлітасна задушана, цяпер не паўторыцца. На гэты раз беларускі народ свой гістарычны шанц не ўпусціць. Яго душа выспела, а воля дастаткова падужэла. Красамоўнае сведчанне гэтага — сотні пісем і тэлеграм выбаршчыкаў у Вярхоўны Савет Беларусі, частку якіх мы і прапануем увазе паважаных чытачоў. Жыве Беларусь!»

Змест гэтага зборніка складаюць тэлеграмы, лісты, якія ішлі дзесяткамі, сотнямі тады, калі з падачы русіфікатараў, «інтэрнацыяналістаў», і проста людзей без роду-племені мусіравалася пытанне аб тым, каб за дзяржаўнае двухмоўе прагаласаваў сам Вярхоўны Савет, а затым гэтае рашэнне зацвердзіў бы і адпаведны пункт новай Канстытуцыі. Апублікаваныя матэрыялы адносяцца да канца 1992 года — пачатку 1993 года. У прыватнасці, такую тэлеграму паслаў тады агульны сход пісьменнікаў, што адбыўся 27 кастрычніка 1992 года: «Агульны сход Саюза пісьменнікаў Беларусі выказвае вялікую трывогу з прычыны захадаў пэўных колаў узаконіць двухмоўе ў суверэннай Беларускай дзяржаве. Лічым, што гэтым будзе вынесены смяротны прысуд беларускай мове. Мы рашуча супраць гэтага. Няхай у нашым доме пануюць мір і парадак, а дзяржаўнай мове быць адной — беларускай».

А гэта думка доктара фізіка-матэматычных навук, прафесара В. Берніка з Мінска: «Лічу, што ў цяперашні момант толькі такая простая і глыбокая рэч, як мова, можа згуртаваць нацыю. Гістарычны вопыт паказаў, што ва ўмовах двухмоўя гэта зрабіць немагчыма».

Марыя Рудак з вёскі Елка Зэльвенскага раёна пераканана: «Адна ў дзіцяці родная маці і адна ў незалежнай краіне РБ павінна быць дзяржаўная мова».

Працяг гэтых трывог, клопатаў, занепакоенасці — і ў брашуры «Мы не просім — мы патрабуем!...» Інтанацыя выказвання меркаванняў, як бачым, тут больш катэгарычная. Што ж, зразумець можна. Над існаваннем мовы навісла яшчэ большая небяспека. Як тут не пагадзіцца са студэнтамі, выкладчыкамі Мазырскага педагагічнага інстытута (іх лістом зборнік адкрываецца): «Закон аб дзяржаўнасці дзвюх моў стаў бы новым Чарнобылем для беларускай нацыі, у рэактарах якога ў якасці паліва запалала б духоўная шматвяковая спадчына Беларусі». 693 подпісы пад гэтым Зваротам да народных дэпутатаў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь. На ўвесь голас вырашылі сумленныя беларусы падзяліцца сваёй трывогай. Масіраваная кампанія супраць дзяржаўнай беларускай мовы набірае ўсё новыя абароты.

Цяпер козырная карта больш важкая: «Даеш рэферэндум!». І няўцям падобным «добразычліўцам», што «патрабаваць двухмоўя — гэта разбураць тое, што па драбніцах было зроблена за апошнія 3—4 гады. Ніякага Адраджэння тады не будзе. Таму што, па-першае, шмат хто з беларусаў лічыць, што іх на старасці прымусяць вучыць беларускую мову; па-другое, адстаўнікі, ваеннаслужачыя і шмат хто з кіраўніцтва — гэта ўсё рускія, і яны ўвесь час вядуць агітацыю ўсюды, дзе толькі можна, супраць беларускай мовы. Яны жадаюць праз двухмоўе насадзіць сваю мову».

«Увядзенне двухмоўя шляхам апытання дэнацыяналізаванай большасці — ці той гэта шлях, шаноўныя дэпутаты?!» — з недаўменнем задаюць пытанне выкладчык Віцебскага тэхналагічнага інстытута Ф. Сіўко, журналіст В. Кадушка, выкладчык Віцебскага медыцынскага інстытута Р. Кадушка. «Вынесці на рэферэндум пытанне аб дзяржаўнасці дзвюх моў — гэта значыць прадузята, мэтанакіравана, канчаткова знішчыць, загубіць беларускую мову на беларускай зямлі. Беларуская мова не вытрымае надалей такога канкурэнта, як руская мова, бо яна ўжо сёння апынулася ў загнаным, перадсмяротным становішчы», — пераканана М. Чарняцова з г. Маладзечна.

Трывогі не хаваюць і Н. Каралёва, А. Каралёў, В. Каралёў з г. Магілёва: «На Беларусі павінна быць дзяржаўнай толькі адна мова, беларуская, бо гэта мова народа, які надаў найменне дзяржаве. Улічваючы сучаснае гаротнае становішча нашай роднай мовы і яе заняпад, наданне статуса дзяржаўнасці дзвюм мовам прывядзе да поўнага скону беларускай мовы. Дык вазьміцеся ж за розум, панове дэпутаты!».

«Наш вечны зніч» — называецца серыя, у якой выйшлі зборнікі ў абарону мовы, беларускасці, дзяржаўнасці. У гэтай жа




бібліятэчцы, якая, думаецца, будзе не лішняй у доме кожнага свядомага беларуса і кніжка самога Н. Гілевіча «Як не спыніць узыходу сонца...»

Апошнім часам ён, як ніхто, бадай, з беларускіх пісьменнікаў, культурных дзеячаў, паслядоўна выступае ў абарону НАЦЫІ. Так, нацыі! Бо нацыя без мовы, дзяржаўнасці — нішто. Бо нацыі няма там, дзе яе мова знаходзіцца ў заняпадзе. А наколькі паслядоўныя памкненні Н. Гілевіча ў гэтым кірунку, яскрава бачна і з яго новай кнігі публіцыстыкі. Яе склалі артыкулы, выступленні, інтэрв'ю апошніх гадоў. Акурат гэта час, калі грамадская і адраджэнцкая дзейнасць Н. Гілевіча набыла асаблівы размах, мэтанакіраваны і паслядоўны характар. Пытанні мовы, захавання беларускасці заўсёды непакоілі яго. Цяпер жа, як народны дэпутат, старшыня Камісіі па культуры, адукацыі і захаванні гістарычнай спадчыны, Н. Гілевіч выступае ўжо і як дзяржаўны дзеяч. І да гэтага голасу — смелага, прынцыповага, да гэтых меркаванняў —аргументаваных, прасякнутых болем за будучыню, лёс Бацькаўшчыны, да гэтай пазіцыі — узважанай, мужнай — нельга не ставіцца з разуменнем. З разуменнем і павагай. А яшчэ, што таксама немалаважна: якая б трывога ні гучала ў выступленнях Ніла Сымонавіча, ён усё ж у асноўным застаецца аптымістам. Гэтым аптымізмам была прасякнута і яго прадмова да анталогіі «Матчына слова», выпушчанай ў 1991 годзе, — «Як не спыніць узыходу сонца...», якая і дала назву брашуры.

Зашмат давялося цытаваць, але і гэтым разам нельга абысціся без яго. Па той простай прычыне, што развагі Н. Гілевіча тут — як бы падагульненне думак, што прагучалі ў двух першых зборніках: «Неспагадны, страшна неспагадны лёс выпаў нашай роднай беларускай мове! Ды якой мове! Непаўторна пявучай ад свайго раскошнага поўнагалосся, невычэрпна багатай лексічна і паслухмяна гнуткай у словазлучэннях, па-зямному, па-хатняму простай і, як свежы бохан, цёплай і духмянай, па-язычніцку першароднай і вобразнай! Мове, асвечанай духам высокай старажытнай кніжнасці і дасканала распрацаванай цудоўнымі першакласнымі майстрамі. Мове, якая насуперак усім жорсткім выпрабаванням лёсу, свабодна і лёгка дыхае нерастрачанай дзівоснай жыватворнай сілай!.. «Дык хіба ж можа такая мова адысці ў небыццё, адмерці, згінуць праз наша нядбальства ці па чыёйсьці злой волі? Ніколі! Уласнае нядбальства мы, усаромеўшыся нарэшце да глыбіні душы нашай усенароднай, пераадолеем! А зласліўцам-нядобразычліўцам спакойна скажам: «Дарэмна стараецеся! Як не спыніць узыходу яснага сонца — так і не стрымаць адраджэння нашае мовы. На радасць усім добрым людзям у свеце — яна выжыве!».

**З. В.**

# «НЕ ЗАГУБІЦЬ СКАРБ ДУШЫ»

Пад такой назвай капыльская раённая газета «Слава працы» змясціла ў адным са сваіх нумароў тэзісы даклада намесніка старшыні райвыканкома М. Мельянца, з якім той павінен быў выступіць на чарговай сесіі раённага Савета дэпутатаў, прысвечанай пытанню, што, бадай, заслугоўвае ўвагі органаў мясцовай улады ва ўсіх раёнах — «Аб рабоце ўстаноў культуры Саветаў дэпутатаў па адраджэнню нацыянальнай культуры ў раёне». Тым самым, і ўдзельнікі сесіі, ўсе жадаючыя загадзя мелі магчымасць пазнаёміцца з асноўнымі накірункамі гаворкі. А яна была прынцыповай і закранала розныя аспекты нацыянальнага Адраджэння.

Як М. Мельянец, так і тыя, хто прынялі ўдзел у абмеркаванні даклада (а сярод іх прадстаўнікі іншых эшалонаў мясцовай улады, работнікі культуры, кіраўнікі школ, гаспадарак), адзначалі, што ў раёне нямала робіцца дзеля таго, каб народу вярталася забытая духоўная спадчына, зберагаліся помнікі гісторыі і культуры. Яшчэ ў 1989 годзе на Капыльшчыне выканкомам раённага Савета народных дэпутатаў была распрацавана і прынята доўгатэрміновая мэтавая праграма «Спадчына».

Усё большую папулярнасць набываюць у раёне народныя святы «Купалле», «Гуканне вясны», «Каляды» і іншыя. Урачыста адзначаюцца дажынкі, каляндарна-абрадавыя святы. Нягледзячы на цяжкасці, працуюць самадзейныя калектывы, што працягваюць зберажэнне і адраджэнне нацыянальных традыцый. Па-ранейшаму славіцца народны аркестр народных інструментаў «Капыльскія дудары» (мастацкі кіраўнік В. Мотуз), не страцілі свайго былога майстэрства знакамітыя калектывы «Нёманцы», «Доктаравіцкія вячоркі», «Лютовіцкія вячоркі», у раёне аднаўляецца ганчарны промысел.

Як гаварылася на сесіі, на Капыльшчыне традыцыйнымі сталі і раённыя фестывалі народнай творчасці. Вялікая ўвага надаецца музейнай рабоце. У прыватнасці, Капыльскі краязнаўчы музей апошнім часам устанавіў сувязі з Польшчай, Злучанымі Штатамі Амерыкі і Ізраілем, а гэта, безумоўна, садзейнічае папаўненню яго фондаў новымі цікавымі матэрыяламі.

І, канечне ж, на сесіі не было абыдзена ўвагай пытанне аб вяртанні роднай, беларускай мовы ў паўсядзённы побыт. І ў якасці паважнага стаўлення да яе называўся... начальнік раённага аддзела ўнутраных спраў, палкоўнік міліцыі М. Бердніковіч. Калі яшчэ далёка не ўсюды справаводства вядзецца па-беларуску, і не ўсе сесіі праводзяцца на дзяржаўнай мове, дык Мікалай Міхайлавіч запатрабаваў ад пазначаленых безумоўнага выканання Закона аб мовах. Усё справаводства ў міліцыі арганізавана на беларускай мове. А гэта не так і проста, калі ўлічыць спецыфіку работы і адметнасць самой тэрміналогіі.

І ўсё ж, як пераканала сесія, Капыльскі раён, у якім, як вядома, вельмі багатыя культурныя традыцыі (гэтая зямля дала 38 пісьменнікаў!) — той куток Бацькаўшчыны, дзе беларусы не забываюць, што яны беларусы.

## НЕ ЗАБЫТЫ НАСТАЎНІКІ

выдавецтвам «Народная асвета». Для іх тут выходзяць як асобныя дапаможнікі, так і серыйныя выданні. Прынамсі, знайшла свайго пастаяннага (прытым удзячнага) чытача і «Бібліятэка настаўніка пачатковых класаў». Нядаўна яна папоўнілася кнігай «Беларуская мова ў 3 класе». Аўтары В. Бекіш і Я. Івашуціч даюць шмат карысных парад, што дазволяць педагогам у паўсядзённай практыцы лепей далучаць дзетак да багатага і шматфарбнага свету матчынай мовы, любіць яе і шанаваць.

## НЕ ТОЛЬКІ СПЕЦЫЯЛЬНУЮ ЛІТАРАТУРУ

збіраецца выпускаць у наступным годзе выдавецтва «Ураджай». Прынамсі, мяркуецца выдаць кнігу А. Бадака «Маленькі чалавек у вялікім свеце», адрасаваную бацькам, выхавацелям дзіцячых садоў, дзядулям і бабулям. Развагі пра выхаванне дзетак дапаўняюцца вершамі, казкамі, апавяданнямі, напісанымі самім аўтарам.

В. Селівончык («Беларускія народныя паясы») знаёміць з адным з відаў беларускага народнага ткацтва.

Паэт З. Марозаў па прафесіі, як вядома, агранам. У кнізе «Пра гарох і буракі, жыта, бульбу, агуркі» ён захапляюча, з веданнем справы апавядае пра найбольш распаўсюджаныя на Беларусі агародныя, палявыя і лугавыя расліны.

С. Паўлаў («Дзівосы прыроды») запрашае зрабіць падарожжа ў таямніцы прыроды, даведацца пра многія легенды, паданні, народныя прыкметы...

А што Закон аб мовах працуе, сведчыць падрыхтоўка да выдання «Руска-беларуска-лацінскага слоўніка хірургічнай і клінічнай тэрміналогіі ў ветэрынарнай медыцыне» і «Руска-беларускага слоўніка інфекцыйнай паталогіі сельскагаспадарчай жывёлы», над якім працавалі калектывы аўтараў.

## ...І СЛОЎНІК ПАРОНІМАЎ

Бадай, не праходзіць і тыдня, каб не з'явіўся на паліцах кнігарань чарговы слоўнік. Што ж, гэта яшчэ адно сведчанне таму, што, нягледзячы на ўсе цяжкасці, працэс нацыянальнага Адраджэння набывае незваротны характар, а Закон аб мовах — працуе. І тыя, хто яшчэ нядаўна забываў, што ён беларус, пачынаюць з павагай ставіцца да роднай мовы. Не лічаць яе чужой і прадстаўнікі іншых нацыянальнасцей, якія зразумелі, нарэшце, што жыць у суверэннай дзяржаве і не ведаць дзяржаўнай мовы — проста недаравальна. Ім, думаецца, у першую чаргу і прыдасца «Слоўнік паронімаў беларускай мовы» С. Грабчыкава, што пабачыў свет у выдавецтве «Народная асвета». І вось чаму. Паронімы, як вядома, словы блізкія па сваім гучанні, але розныя па значэнні. Часам і некаторыя беларусы блытаюцца, у чым, напрыклад, розніца паміж словамі бескарыслівы і бескарысны, чым адрозніваецца абагульнасць ад абагульніць. Калі карыстацца словам цікавы, а калі да месца ўжыць яго блізкі варыянт цікаўны... На ўсё гэта і можна знайсці адказ у слоўніку. С. Грабчыкаў прыводзіць звыш 3300 слоў і кожнаму з іх дае вычарпальнае тлумачэнне.

## «ПРАЛЕСКА», N 6

«У чаканні цяпла» — развагі галоўнага рэдактара «Пралескі» А. Сачанкі ў сувязі з Міжнародным днём абароны дзяцей. Творчасць сучасных беларускіх пісьменнікаў у навучанні дзяцей дашкольнага ўзросту роднай мове — тэма артыкула Н. Балоннікавай «Каб мову мець, каб звацца чалавекам...». «Ёсць на свеце добры Бай...» — словы А. Марціновіча пра А. Дзержынскага. В. Скідан («Як сцяклося дзве рэчанькі») працягвае знаёміць з асаблівасцямі і традыцыямі беларускага вяселля. У падборцы «Вясёлы вулей» — творы У. Якубовіча, В. Франца. У. Мацвеенка знаёміць з загадкамі-рыфмаванкамі. Прапануюцца народныя лічылкі, вядомая «Песенька дзеда Барадзеда» (музыка Л. Захлеўнага, словы А. Вольскага).

Паэзія

Анатоль ШУШКО



# КРУГ НАДЗЕІ

### МОВА

*Пімену ПАНЧАНКУ*

Вераду мой, мова мая,
Вера да скону ўзятая
З родных грудзей. Хоць абнадзей.
Завяззю слова заўзятая,

Не замаўчы. Смейся, крычы,
Плач, толькі зыкамі зычыла б:
Золкаў — зары, зор — для начы.
Свет наш святлом ты ўзвялічыла.

Мова мая, позва мая,
Повязь мая пупавінная!
Боль мой дазволь зведаць ТАБОЙ —
Полымем, жарам, крывінкаю.

Каб не згнюсіў, сам не згняве́ў,
Каб не спяшчыла пяшчота ўся,
Не спаражнеў, дужэў і мужнеў,
Сонечным промнем каб шчодрыўся.

### ТАЙНА

Тайна — нечаканая звычайнасць
для таго, хто адкрывае яе.
Тайна правакуе на адчай нас,
калі ключ адгадкі не дае.

І штодня не ведаў я патолі,
імкнучыся вечнае адкрыць,
каб не голас маці — голас долі:
— З ёй на мове песні гавары.

### ВЕРНАСЦЬ

Гады мае, пад шум дажджу спарней
вам узнаўляе памяць ачародна,
бо кожны цеплынёю абвіне
той вернасці, наканаванай родным,

што безашчадна яваю сваёй
у адкрыцці і шчасці выпадковым,
пранізана адвечнай дабрынёй
і мазаля пяшчотаю суровай.

Гады мае, не астудзіць бы слоў
ні раўнадушшам, ні нудой сляпою.
Каторы ўжо на сажалках буслоў
пагляд мой не зацвердзіў прад сабою!

Каторы ўжо сустрэча — вырай мой?
Каторы ўжо адлёт — маё вяртанне?
Мой родны кут — аэрадром зімой,
дзе снегам стыне на крыле расстанне.

Гады мае — караблікі майго
маленства, што у шлях іх выпраўляла
па тоненькай рачулцы, і бягом
страчаць спяшала ля «свайго» прычала.

Рачулцы — плюшч, і папяровым тым
караблікам не патануць ніколі,
гады мае, бо вернасць, як Гольфстрым,
у цеплыні не ведае патолі.

### ВЯСЕННЯЕ

Разам з кожным лісточкам вясны шапчу
Зноў замовы сваім памкненням.
Нешта светлае сёння казаць хачу.
Сэрца грэе душу агменем.

І цяплее, здаецца, яна, але
Успаміну няшчарны верад
Галавешкай былога яшчэ не стлеў.
І дыміць, і курыць без меры.

І святая мая невымерны сум
У патугах праз боль раджае...
А жывы, малады і зялёны шум
Так і весціць аб ураджаі.

•

Ніхто гэткай мовы не мае, як МЫ,
Браток беларус.
Вядзе і штурхае яе да турмы —
Гнюс.

Ніхто гэткай мовы не мае. Змажы ж,
Нябога.
Каб ТУТ загучала. Гужы развяжы!
Вярэдзіся богам!

•

Марудзяць дух крынічны мой
І восень, і зіма.
А я малю вясну: «Пастой!
Ты вечнасцю — сама».

Хай дакляруе жоўты ліст
Маўчання мокры снег.
Баліць, баліць, баліць, баліць,
Калі жыццё у сне.

Пакуль шчыруе салавей
У сэрцы і душы,
Кажы, кажы... І не гавей.
Пішы, пішы, пішы.

### ВЕСТКА

Скаланула істоту
нечаканым прыходам,
спыніўшы гадзіннік
апошніх надзей.
Сутанаю ночы
аблегла хату,
як, бразнуўшы клямкай,
пайшла далей.

### ТРЫЯЛЕТ

Не забывай сяброў нідзе —
выратавальны круг надзеі.
З іх кожны у жыцці падзея.
Не забывай сяброў нідзе.
Чупрынка з восенню радзее,
ўжо не затоіш ад людзей.
Не забывай сяброў нідзе —
выратавальны круг надзеі.

•

Хвілінку, шчасце, пачакай.
Хоць абнадзей, каханне, вязня.
Як утрапёная, рука
У валасах мядовых вязне.

Хвілінку, шчасце, не спяшай.
Размовы вуснаў безгалосых
Не патрывож. Хлапечы шал
Астудзяць золкавыя росы.

Няхай залевай пачуццё
Наскрозь вясновa захлынае.
Юнацтва раніцы — касцёр
Святочна ружамі палае.

Хвілінку, шчасце. На мяжы
Свайго жыццёвага сталення —
Два спарышы.
І ні душы...
У пакаленне з пакаленняў.

•

«Маўчы! — прагуў жыцця апалагет, —
Ад слоў тваіх усеагульны рогат».
«Крычы! — адзначыў ветліва паэт. —
У смеху гэтым слёз таксама многа».

### ВЕРШУ

Ведаю,
што я жыву табою.
А ілгу,
што я жыву — табою.
Ведаю,
што я пamру з табою.
А ілгу,
што я памру — з табою.

Верш!
Навошта сэрца мне тыраніш?
Лепш бы
не знаходзіць твае грані,
Лепш...
«А захлынуцца у падмане
Лепш?!..»
Дык рань жа, рань, пакуль ТЫ раніш.

•

Нявыплаканых слёз няма.
Хоць веру я у шчасце незямное,
Аднак пакуты і бяда са мною.
Нявыплаканых слёз няма.

Расой Зямля — гаротніца сама —
Даказвае мне штонірань адное:
«Нявыплаканых слёз няма.
Хоць веру я у шчасце незямное».

### СПАСЦІЖЭННЕ

*Міколу ЦЕЛЕГУ*

Ты хоць помніш «Мадонну
з кветкай»?
Тую светлую вышыню.
Тую стрыманую прыветнасць
І бунтоўную цішыню?

Ты хоць помніш «Мадонну
з кветкай»?
«Пілігрымамі пекнаты»
Нараклі нас тым спорным летам.
Быў уражанняў бор густы.

Заблудзіцца толькі. Блудзілі.
Сярод вечнага стрэцца як?
Мы вякі у сябры залічылі,
Каб спасцігнуць адкрыццяў смак.

І спасціглі — «Мадонну з кветкай».
Помніш, моўчкі не мог трываць?
Чалавечую памяць свету
Немагчыма не адкрываць.

### БЕЛ-ЧЫРВОНА-БЕЛАМУ

*«На Беларусі бог жыве...»*
*Ул. Караткевіч*

На Беларусі бог жыве.
Як верыць хочацца!
І веру.
Бо зноў да шчырасці заве
Пяро парыўнае паперу.
На белым крэўнасцю смыліць
Твая крывінка Беларусі.
Штандар, навошта агаліў
І ніцай прожылкай прымусіў
Нябогі сэрца гаварыць
Пра тое, што даўно нібыта
Забыта?.. А душа гарыць
У клунку страху і нязбыту.
Ступь толькі дым на ўздым густы,
Агортвае цяпельца мары.
А Слова, быццам гук пусты,
Дарма пускаецца за хмары.
На Беларусі бог жыве.
О белы мой, чырвона-белы!
Чаму дасённеча гавеў,
Крывёй і саванам збялелы?
За што і ад каго, скажы,
Ты бараніў жытло даверу?
Няўжо каб спраўдзілі крыжы
І спрат вужоў, і схоў хімераў?
Ды што кажу!.. Ясней, святлей,
Шчыруй, раз вечнасцю купаны.
Бо не павінны азалець
Ні дух Скарыны, ні Купалы.

•

Сонейка вясенняе маё,
Гэтак ты мяне пацалавала,
Што ў вецці радасных гаёў
Шчасця для мяне дасюль нямала.

Сонейка асенняе маё,
Што ж ты не цалуеш, не мілуеш?
Ці у зыркім золаце гаёў
Шчасця для сябе ужо не чуеш?

•

Як чароўна свецяцца лясы
Ягадамі і баравікамі!
Мабыць, я для іх не горшы сын,
Раз вітаюць вейкамі-вякамі?

Вочы бачу і люблю, пакуль
Гаманю са светам адмысловым.
«Векі не заплюшчвай, лепш вякуй!» —
Чую у жыцця святыя словы.

Мо таму так свецяцца лясы
У птушыных словах-перамовах.
Мо таму так прэчуся слязы,
Мо таму не верыцца умовам.

•

Салодкі водар канюшыны
нас ахмяліў, і свежы стог
стаў той апошняю вяршыняй,
што дорыць закаханым бог.

Паўнюткія нявіннай страсці,
снуюць над лугам матылькі.
Трымціць бязвоблачнае шчасце!
Глядзіць імгненне праз вякі.

Проза

# БУБЕН

Васіль ТКАЧОЎ



АПАВЯДАННЕ

У Аркашкі не было свайго бубна, ды і наўрад ён мог быць у гэтага хворага чалавека, калі Ганна, яго матка, сыну ў мясцовай краме купляла толькі зрэдку цукеркі, печыва, а з горада прывозіла такую-сякую просценькую апранашку: бедна жылі, на дзве сціплыя пенсіі — Ганніну і сынаву. Аркашка, відаць, ніколі і не прасіў Ганну: купі бубен. Не ж, канешне. Ён увогуле моўчкі прымаў ад яе ўсё, што яна яму давала. Еў, піў, насіў... І тым быў ашчаслівілены. Не, не павінна быць, каб ён хоць раз заікнуўся пра бубен. Ды яна б, Ганна, і паабяцаць не паабяцала, і купіць не купіла б, хоць і папрасіў бы сын — кожная капейчына на ўліку, на хлеб ды селядзец: не раскашуешся. Ды і дзе яны, тыя бубны, прадаюцца? Ды і ці прадаюцца? Іх жа, мусіць, майстравыя музыкі робяць — у вёсках, гарадах. Для сябе. Як рэшата, дугу, плужок. Але калі якая гулянка ў Беражках — вяселле, хрэсьбіны, уваходзіны — мясцовы музыка разам з гармонікам абавязкова прыхопліваў і бубен. Бубен — для Аркашкі. Ён жа заўсёды прыходзіў на такія мерапрыемствы без запрашэнняў, яго ўжо быццам бы і чакалі, мясцілі куды-небудзь на ўскрайчык лаўкі, налівалі келіх-другі, ён выпіваў і закусваў, не выпусціўшы на свет ніводнага слова. Толькі соп, калі еў. І сачыў за гарманістам. Той выбіраўся з-за стала — за ім ішоў і Аркашка, сядаў ад яго з правай рукі, вывуджваў з халявы чобатаў — Ганна чамусьці аддавала перавагу зімой і ўлетку гэтаму абутку, а мо і сам ён — палачку, выструганую самаручна, таму крыху нязграбную, караваю, і ў яго атлусцелай левай руцэ пачынаў уверцюру бубен — спярша трымцеўзвінеў мініяцюрнымі бразготкамі над Аркашкавым вухам, а потым, бытта жаўранак, адспяваўшы ў высі, камячком кідаўся на зямлю, — так і бубен: у правай руцэ падпільноўвала яго палачка, неўзабаве яна кранапася нацятага — як звон! — скуранога палатна, і тады Аркашка, прафесійна схіліўшы галаву на бок, выстукваў на бубне самыя розныя мелодыі, і ніхто не помніць, каб калі-небудзь гарманіст папракнуў яго за фальш. У гэтай справе Аркашка быў маэстра, таму рэдка хто цягнуўся за бубнам, калі той быў у ягоных руках. Мо толькі п'яны які? Але што з яго, асалавелага, возьмеш? Цікава ж — Аркашка даваў бубен моўчкі і пакорліва, а сам перасядаў ад гарманіста або стаяў крыху паводдаль, каб бубен і гармонік былі блізка, поруч, і абыякава, здавалася, назіраў за людзьмі, што калываліся ў танцы. Але без справы заставаўся звычайна ён зусім мала: знаходзіўся нехта, хто абавязкова крыкне:

— Аддай бубен Аркашку!

Іншы дабавіць да гэтых слоў: «Партач!»

Тады Аркашка моўчкі падыходзіў да свайго законнага месца, лавіў у паветры руку з палачкай, вылузваў яе, забіраў і бубен. «Людзі сказалі: аддай...» І зноў схіляў галаву на бок, шавяліў у роце языком — у такт музыцы, прытупваў чобатам, і да кропелек на расчырванелым твары выбіваў-выстукваў з гэтага нямуд-рагелістага бубна нешта жывое, вясёлае, трапяткое — вельмі патрэбнае людзям пасля чаркі.

Біць у бубен бярозавай палачкай і прыстукваць вязанкай пальцаў, сашчапіўшы іх у кулак ці проста далоняй, чарадуючы адно з другім, — адзінае, што ўмеў Аркашка добра рабіць на гэтым свеце. Яшчэ вады наносіць, дроў, а каб самому распаліць печ або грубку — тут не, не яго занятак: і скласці тыя дровы ў печы не атрымлівалася, і запалкай чыркнуць не собіла яму. Бог чамусьці не даў Аркашку ўсяго таго, што даў іншым. За што пакараў, спытаць бы? Бацька з вайны не вярнуўся — загінуў. Ганна з евангеллем клалася спаць і з ім уставала, усе пахаванні-адпяванні ў Беражках былі на ёй: нікому не адмаўляла, хворая не хворая, а ідзе з Божым словам у апошнюю дарогу правесці загавелага вяскоўца. Аркашка ж, калі быў зусім немаўлём, то застудзіўся, да яго прыліп поліяміэліт, той жорстка абышоўся з ім — на ўсё жыццё пакінуў Аркашку хворым, няшчасным. У школу пахадзіў усяго мо з месяц, а тады настаўнік перадаў Ганне сваё заключэнне-дыягназ: нічога не будзе з хлапца, не адужаць яму граматы, няхай лепш сядзіць пры хаце. Ганна і сама ведала, на што варты яе сын: бачыла, не без вачэй, ды і дактары яшчэ раней сказалі ёй — далікатна і тактоўна — тое ж самае. Але як было сказаць яму, каб не рупіўся перад вераснем, не збіраўся ў школу? Суседскія ж вунь збіраюцца дзеці, і ён каля іх трэцца, хваліцца, што і яму матка купіла буквар, сшыткі, ручку. Дзеці потым нешта пісаць пачалі ў тых сшытках, а ён, Аркашка, толькі выводзіў нейкія хвалепадобныя ланцужкі — як усё роўна мора маляваў. На тых ланцужках і скончылася вучоба. Пазней, калі наспеў час, хлопцаў, ягоных аднагодкаў, на ўлік паставілі ў сельсавеце — як дапрызыўнікаў, адзін раз, самы першы, выклікалі і Аркашку, зрабілі адпаведныя запісы і больш не турбавалі. Аднак ён панадзіўся хадзіць услед за хлопцамі ў сельсавет на розныя камісіі. Прачуе, што тыя збіраюцца, падцікуе — і не вярнуць яго: дужа хацеў у армію. Каб не крыўдзіць хлапца, дактары загадвалі і яму распранацца, ён рабіў гэта доўга, а потым замяралі рост, станавілі на вагі, слухалі дыханне — і паказвалі выгляд, што і ён такі, як усе, толькі ніякіх запісаў нідзе, вядома ж, не пакідалі.

Той-сёй раіў адвезці Аркашку ў псіхушку, але Ганна пра гэта і чуць не хацела. «Гэта пры жывой матцы? Што вы кажаце, людзі?!» Не раіў рабіць гэтага і старэйшы сын — Мікалай, ён якраз у той бальніцы працаваў на легкавушцы: вазіў галоўнага ўрача. Мікалай часта прыязджаў у Беражкі, і не з голымі рукамі, корпаўся з маткай на агародзе — Аркашка ж курэй на вуліцы пасвіў — і шкуматаў да чырвані вушы вясковай дзятве, якая знайшла ў хворым чалавеку цацку: то ўшчыкнуць яны Аркашку, то штурхануць або за нос ці апранашку тузануць. Давядуць звычайна яго да такога стану, што хлапец наліваўся злосцю, пачынаў бегаць-ганяцца за дзецьмі, дагнаць нікога не мог, тады злаваў яшчэ больш, хапаў усё, што траплялася пад руку, меціў у сваіх крыўдзіцеляў, але камень ці кавалак цагліны прызямліўся зусім блізка — як не пад самым носам у Аркашкі. Разлаваны, ён прыходзіў дахаты, чапляўся да маткі, спаганяў злосць на ёй, іншы раз, сапучы, заяўляў:

— Жані мяне!..

Хоць і круціў Мікалай вушы дзятве, бацькам жаліўся, але дзе ты іх, блазнюкоў, спыніш? Яны і пазней — ужо другія вывадкі беражкоўцаў — не пакідалі Аркашку ў спакоі, калі ён з хлапца стаў дзецюком. Штурхануць, тузануць, а то і словам завядуць з паўабарота, бы добра адрэгуляваны матор. І Аркашка зноў ганяўся-даганяў, хапаў-кідаў. Але ні ў кога так і не трапіў. Ды і шкоды за сваё жыццё ён ніколі не зрабіў. Не, не прыпомняць людзі, каб набедакурыў.

А тады бяда за бядой: памёр пасля невылечнай хваробы Мікалай, а праз колькі часу прывезлі труну і з Карэліі — там сканаў сярэдні Ганнін сын Міця, стары халасцяк. Гэтае гора і людзям на сэрца лягло, дарослым і дзецям: шкадавалі дужа Ганну і Аркашку. Што добра, дык малеча быццам перамянілася, зусім па-іншаму пачала адносіцца да Аркашкі — не як да хворага і безабароннага, а як да звычайнага нармальнага чалавека, з якім іншы раз карцела ім пагаварыць пра жыццё-быццё, расказаць яму анекдот, недзе нечым памагчы, а такое бывала, што трэба: то пакаўзнецца ў галалёд, а сам доўга пакутуе, пакуль узаб'ецца на ногі, то вядро тое ж з вадой паднясуць. Аркашка нічога не скажа, толькі неяк пачырванее ад сваёй бездапаможнасці, махне рукой — а ну яго, галалёд, а ну яе, ваду! — і пойдзе ў хату...

Тым летам спраўлялі вяселле на Ганчароўцы, гэта паблізу ад Ганнінай хаты. Граў на гармоніку Мішка Шурмялёў — музыкант, якіх пашукаць, а бубен завіхаўся ў Аркашкавых руках. Панаехала на вяселле багата гарадскіх — у асноўным з боку жаніха, браў ён мясцовую дзеўку, і хлопцы, самі ўчарашнія вяскоўцы, хіба ж не відаць, хадзілі па двары гогалямі, петушыліся, чым стараліся паказаць астатнім: расступіся, дзяроўня, горад прыехаў! Адзін з іх і вырваў з рук Аркашкі бубен.

— Дай сюды! — груба сказаў, пасунуў Аркашку, і пачаў ляпаць у бубен — больш кулаком, чым палачкай.

Адляпаў адзін танец, другі... Нехта крыкнуў:

— Вярні бубен Аркашку!

Аркашка падышоў да хлапца, спаймаў у паветры руку, але затрымаць не змог — той не ўступіў, адмахнуўся:

— Сядзі, дзядзя!..

— Людзі сказалі... ета... бубен...— паспрабаваў пазмагацца за сваё месца каля гарманіста Аркашка. — Бубен... ета... сказалі...

— Што людзі сказалі — нам напляваць! Скачы лепш, дзядзя!

Аркашка махнуў рукой — ён заўсёды гэтак рабіў, калі на каго ці на што злаваў — і адступіўся.

— Вярні бубен Аркашку, фраер! — зноў пачулася з гурту, які таптаўся пад музыку на лысым двары.

А там і дзеці, якія ашываліся на вяселлі, абступілі таго гарадскога неслуха, пачалі заступацца за Аркашку.

— Дзядзька, гэта Аркашкава месца.

— Аддайце яму бубен.

— У яго лепш палучаецца.

— Кыш, малеча! — адмахнуўся, бы ад назойлівых аваднёў, гарадскі хлапец. — Кыш, я каму сказаў, маляўкі! Будзеце мне тут!.. Кыш!

— Вярніце бубен!

— Не вярніце, а вярні! — рассунуўшы, бы непрымацаваныя калкі ў паркане, хлапчукоў, да няпрошанага барабаншчыка працёрся Пярсцёнак, так па-вясковаму звалі Рыгора Грышкаўца, але на ягонай руцэ-аглоблі павісла жонка Манька, заенчыла-загаманіла, і ўдар сарваўся: пашанцавала таму, бо кулак у Пярсцёнка — што кувалда. — Мань, пачакай! Пачакай, Мань! Дай разабрацца. Я біць не буду. Я бубен забраць... Ды пусціце вы!..

Ведаючы, хто такі Пярсцёнак, на яго наваліліся мужыкі, прыціснулі рукі да цела: вось так табе лепш будзе, не псуй людзям свята. Гарадскі ж хлопец — не, каб супакоіцца, вярнуць бубен, бяды тае, — аказаўся таксама ганарліўцам, ды і не толькі ім, а чалавекам, якому лепш, відаць, г... смактаць праз ганчурку, чымся піць гарэлку, усхадзіўся таксама не на жарт, асабліва тады, калі высыпалі з-за стала дружбакі — падтрымка прыбыла, цяпер і я герой.

— Бубен вам?! Бач, чаго захацелі! Ды вы, сляпцы, яго больш не ўбачыце, калі на тое! Наце! Бярыце! Падавіцеся! — І ён уздзеў бубен на кол, бы нанізаў кавалак мяса на шампур. — З'елі?

Зрабілася ціха. Усе знерухомелі. Аркашка ж разявіў рот, раз-пораз махаў рукой, крыху счакаўшы, падышоў да коліка, зняў бубен...

— Пусціце мяне, я морду яму расквашу, гаду! — вырываўся ад мужыкоў Пярсцёнак. — Бубен парваў! Ён жа нам, людзі, у морду плюнуў! Усім нам! Вы хоць гэта зразумець можаце?! Пусціце-е!

Больш да канца вяселля таго гарадскога хлапца ніхто не бачыў — схавалі падалей ад грэху жанчыны.

Паселі за сталы. Апусцеў двор. На лаўцы ляжаў гармонік. І сядзеў побач з ім Аркашка, трымаючы ў дрыготкіх руках нікуды няварты бубен. Сядзеў і плакаў, размазваючы слёзы па шчоках.

— Бубен... бубен... бубен... — толькі і шаптаў ён.

— Аркашка, хадзем за стол, — паклікала яго Пярсцёнкава Манька. — Хадзем, Аркашка. Будзе табе ўбівацца. Прынясуць новы бубен. Вэнацькі ў Ёжачкі папросяць.

— Бубен... бубен... бубен...

— Пайшлі, Аркашка! — яна, быццам цяжка хворага, узяла Аркашку пад рукі, павяла ў хату.

Ёжачка свайго бубна не даў. «Адзін пагубілі, і ў мяне яны на гародзе не растуць. Ад гарадскіх чаго хочаш можна чакаць...» Больш ні ў кога пытаць не сталі — добра будзе і так, пад адзін гармонік.

Аркашка прасядзеў усё вяселле побач з гарманістам. Насуплены, нейкі здзічэлы, адцураны ад усяго таго, што рабілася на двары. Ганна потым расказвала, што ў сне ён часта блюзніў пра бубен.

...Няма Аркашкі. Памёр. Пасля таго вяселля пажыў ён зусім мала. Ганна дачакалася, калі прыбярэцца яе хворы сын, каб абузай не быць чужым людзям, ды і спакойна самой тады адыходзіць можна, і таксама развіталася з гэтым светам.

А ў Беражках правяць людзі і сёння вяселлі, хрэсьбіны, уваходзіны, нехта таксама ляпае ў бубен, і нехта, бывае, самотна ўздыхне-выдыхне:

— Эх, калі б гэты бубен ды Аркашку!

З бубнам у руках яго і запомнілі.

З паэтычнай пошты

Уладзімір ФАМІН

# НЕ СПІЦЦА МНЕ...

●

Не спіцца мне. Здаецца вечнай ноч,
І думкі — роем, не даюць спакою.
Суседка кажа:
— Можа, стала звоч?
Схадзіў бы да знахаркі за вадою.

Ды толькі рады тут і дактары
Мне не дадуць. Я цвёрда знаю гэта.
Варочаецца пада мной планета.
І сэрца у трывозе аж гарыць.

У Карабаху зноўку льецца кроў.
Кагось з арабаў кінулі за краты.
І я у бойку рынуцца гатоў
За кожнага, хто ў крыўдзе,
Як за брата.

Хвалюе ўсё. Я не староннi, — не.
Зямныя ўсе падзеі: радасць, гора
Сягоння скрыжаваліся на мне.
Як Архімед, шукаю пункт апоры.

Тым скрыжаваннем усё больш і больш
Сябе я на планеце адчуваю.
Слабее, нікне асабісты боль,
І боль другіх, нібыта свой, прымаю.

●

І мая падступае ўжо восень,
Мне чупрыну ахутаў туман.
У жыцця пачакаць не папросіш.
За плячыма — гадоў караван.

З кожным годам даўжэйшым ён стане.
Даўжыня!
Толькі сутнасць ці тут?
Сам сабе задаю я пытанне
І штораз прыбаўляю хаду.

Мне паспець яшчэ многае трэба:
Дарабіць, даспяваць, далюбіць.
Я дзяліўся кавалачкам хлеба.
Можа, трэба б аддаць —
Не дзяліць?

●

Прынёс паштальён тэлеграму.
І думка, як токам, наскрозь
Прашыла мяне:
— Не, не мама.
Па целе прайшоўся мароз.

Хварэла матуля
і многа.
Яна гаварыла не раз:
— Стамілася, сынку, знямогла,
Але не хачу паміраць.
Я ж ёй і сур'ёзна і жартам
Казаў:
— Пражывеш сто гадоў.
А смерць, як зладзейка, упарта
За ёю ішла зноў і зноў.
Ішла ад гадоў ліхалецця,
Усё цікавала з тых пор.
Не вынайшлі лекаў на свеце,
Каб новы зрабіўся «матор».
І вось я стаю над труною,
І вочы заслаў мне туман.
Не звыкнуся з думкай такою,
Што болей матулі няма.

## З ВОСЕНЬСКІХ МАТЫВАЎ

### ДРЭВЫ

За тыдзень лісце абарвала путы.
У родным краі — лістапад.
Яны на жоўтых парашутах
Ляцяць, нібыта зарапад.

І смутак сэрца напаўняе
У прадчуванні перамен.
А што наперадзе чакае?
Гадаю, што знайду ўзамен.

### ЛІСТ

У рэчку ліст упаў і загайдаўся,
Нібыта параходзік, і — паплыў.
За паварот ракі накіраваўся,
Адвозячы і лета, і цяплынь.

### ДОЖДЖ

З-за хмараў не убачыш зарапад,
Які ўжо дзень дождж не дае спакою.
Як быццам хтосьці неба неўпапад
Нацёр да слёз цыбулінаю злою.

### АЗБУКА

*Памяці*
*Анатоля СЕРБАНТОВІЧА*

На першай кніжцы
Напісаў аўтограф:
«Люблю і паважаю больш за ўсіх...»
Жыццё, шкада, што зноў ты
не паўторышся.
Як трэба паўтарыцца б для такіх.

Пегас твой, Толя, зоркаю Венерай
Успыхнуў. Заіскрыўся небасхіл
Паэзіі, якой ты праўдай, верай
Служыў адной, служыў з апошніх сіл.

Няма цябе і ёсць ты, бо сцяжына
Твая бяжыць па краі, мой сябрук.
Які ўжо раз тваю гартаю кніжку
І адчуваю шчыры поціск рук.


Браты Мікалай і Сцяпан СТРАПКО (ЗША)


Ларыса ХРЭНОЎСКАЯ (Канада)

# «ЁСЦЬ КРЫНІЦА Ў РОДНЫМ КРАІ...»

*(Пачатак на стар. 1)*

Гэтым ліпенем Беларусь наведала вялікая група суродзічаў з-за акіяна. Дзіўна, што было сярод іншых землякоў шмат моладзі — дзяцей тых, хто малалетнім з бацькамі альбо без іх патрапіў у замежжа. Аляксандр Закрэўскі і Соня Гінрыч з-пад Нью-Йорка. Альбо Ларыса Хрэноўская з Манрэаля. Мовай беларускай яны валодаюць вельмі слаба, але радзімай сваёй лічаць чамусьці... Беларусь. Значыць, маюць яшчэ моцныя карані. Усевалад і Надзея Цупрыкі — муж і жонка. А вось яны, першы раз наведаўшы Айчыну сваіх бацькоў, паказалі добры прыклад ведання і карыстання словам родным. Чым не прыклад выхавання, традыцыі, культуры!?

Паездка па Беларусі была наладжана Яўгенам Лецкам — чалавекам, які, па сутнасці, распачаў рух згуртавання нашых замежных суродзічаў, стварыўшы вядомую арганізацыю «Бацькаўшчына». Маршрут пралёг спачатку да возера Нарач, а адтуль па старажытных гарадах Полацку і Віцебску. Вядома, кожны, хто трапляе з замежжа дамоў на які тыдзень-два, хочуць як мага больш пабыць з роднымі. І шляхі многіх разышліся ў розныя бакі. Міхась Сенька — на Новы Свержань, Надзея Кудасава — да возера Чырвонага, Юрка Касцюкевіч і Люда Колін — на Рудабелку. Альберт Васанскі да Брагіна. Браты Мікалай і Сцяпан Страпко — у Драгічынскі раён...

Давялося пазнаёміцца нават з беларускім аўстралійцам Антонам Ціхінскім. Шляхі яго лёсу няпростыя. Як і многія, з-за вайны, апынуўся ў замежжы. Родам з-пад Баранавіч. Служыў у польскай арміі. Вярнуўся паранены. Дома — немцы. Трэба было выбіраць — партызаны або паліцыя. У 1943-м Антон пакінуў хату...

На адной з вандроўных дарог знайшлі крынічку і не змаглі не прыпыніцца. Вада ў летні дзень вабіць любога падарожнага пешага ці на колах. Тым больш крыніца. Для іх жа, нашых землякоў з далёкага замежжа, такой крыніцай была і будзе сама Беларусь.

**Анатоль КЛЯШЧУК**
Фота аўтара


Соня ГІНРЫЧ (ЗША)


Аляксандр ЗАКРЭЎСКІ (ЗША)


Усевалад і Надзея ЦУПРЫКІ (ЗША)


На вежы камянецкай


У зале Полацкай Сафіі

ЛіМ
ЧАСАПІС





## КАЗКІ СТАРОГА ДОМА



**Так называецца кніжка маладога гомельскага казачніка Юрыя Максіменкі, якую ён стварыў у сааўтарстве з мастачкай Святланай Наздрын-Плотніцкай. Выпусціла ў свет кнігу гомельскае малое прадпрыемства «Таволга».**

**Юрый Максіменка не прафесійны пісьменнік, а работнік аддзела мастацтваў Гомельскай абласной бібліятэкі. А казкі для дзяцей піша, таму, што любіць свет дзяцінства, свет дабра і шчырасці.**

*На здымку: Юрый МАКСІМЕНКА і Святлана НАЗДРЫН-ПЛОТНІЦКАЯ — аўтары кніжкі для дзяцей «Казкі старога дома» са сваімі першымі чытачамі.*

**Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА, БЕЛІНФАРМ**

## ФАНАТЭКА ПАПАЎНЯЕЦЦА

**Праблема вытворчасці беларускіх грампласцінак, пра якую доўгія гады гаварылася і ў вузкіх колах зацікаўленых музыкантаў, і з досыць высокіх трыбун, — гэтая праблема, выдае на тое, адсунута ў дальні кут нашага дзяржаўнага дома. Дзякуй Богу, эфемернаму музычнаму мастацтву не даюць згінуць рупліўцы Дома радыё. Пакуль што — не сурочыць бы — фонды музычных запісаў спраўна папаўняюцца, нягледзячы на праблемы з гукатэхнікай (студыйнае абсталяванне даўно вымагае мадэрнізацыі) і з аплатай выканаўцаў. У ліку новых запісаў — праграмы Дзяржаўнага камернага хору Беларусі і мужчынскага камернага хору «Унія», прэм'ерны рэпертуар Ансамбля салістаў «Класік-Авангард», п'есы ў выкананні ансамбля «Забытыя мелодыі»... Зроблены мантаж вялікага беларуска-польскага філарманічнага канцэрта, якім адзначалася 175-годдзе С. Манюшкі, і фанатэка рэспубліканскага радыё папоўнілася, такім чынам, адметнымі старонкамі творчасці нашага земляка.**

**Запісваюцца і салісты, у тым ліку й ганараваная міжнароднымі званнямі таленавітая моладзь: гродзенскі гітарыст Дзяніс Асімовіч, выхаванцы Рэспубліканскага ліцэя пры Акадэміі музыкі піяніст Юры Бліноў, віяланчэліст Мікаэл Самсонаў, фартэпіянны дуэт Аня Гетманава ды Насця Пазнякова...**

**С. ВЕТКА**

## «МАСТАЦТВА», N 7

**Нацыянальныя адносіны ў люстэрку выяўленчага і дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва — гэтыя пытанні хвалююць Л. Маленку ў артыкуле «Ці расцвітуць красачкі?».**

**З. Лысенка гутарыць з мастацкім кіраўніком і дырэктарам Тэатра музычнай камедыі Рэспублікі С. Косціным — «Тэатр павінен шанаваць сваіх лідэраў...». «Рукі дырыжора» — развагі Т. Мушынскай і работы фотамайстра В. Майсяёнка з серыі «Дырыжоры». Прапануецца фрагмент даследавання Т. Шчарбаковай аб музыцы яўрэяў Беларусі — «Песні яўрэйскай музыкі». З міжнароднага джаз-фестывалю ў літоўскім мястэчку Бірштанас вядзе рэпартаж Д. Падбярэзскі — «Літва. Бірштанас. Джаз».**

**Л. Грамыка («Без спакусы хлусні») і Б. Луцэнка («Чалавечая трагедыя») даюць магчымасць вярнуцца да спектакля «Раскіданае гняздо» ў пастаноўцы купалаўцаў. Ж. Лашкевіч гутарыць з галоўным рэжысёрам Магілёўскага абласнога тэатра лялек А. Жугждам — «У Ксантэне нас не чакаюць...»**

**А. Гарон («Пад небам Якуба Коласа») аналізуе творы У. Сулкоўскага, прысвечаныя родным мясцінам песняра. В. Буйвал («Куды ідзеш?») знаёміць з работамі 19-гадовага А. Дамброўскага, выпускніка Ліцэя мастацтваў імя І. В. Ахрэмчыка.**

**З іншых матэрыялаў прыцягнуць увагу артыкулы У. Мальцава «Барыс Бур'ян. Спроба партрэта, альбо Подых жывога жыцця» і Г. Габрусь «Былыя кафедральныя саборы Магілёва».**

# ГОЛАС ДУШЫ ПЛЮС ХАРАКТАР

### 1 ВЕРАСНЯ — ДЗЕНЬ НАРАДЖЭННЯ «ПЕСНЯРОЎ». СЁЛЕТА НАШАМУ ЗНАКАМІТАМУ ДЗЯРЖАЎНАМУ АНСАМБЛЮ СПОЎНІЛАСЯ 25

***Слова «эстрада» Уладзімір Мулявін катэгарычна не прымае. Ён лічыць, што гэта слова залішне абагульняючае і зусім нічога не азначае. Па-свойму У. Мулявін, безумоўна, мае рацыю. Ва ўсялякім разе, ансамбль «Песняры» і сапраўды ніяк не ўпісваецца ў трафарэтныя рамкі неабходных атрыбутаў эстраднай музыкі. «Песняроў» наогул цяжка ўціснуць у нейкія межы традыцыйных жанраў і кірункаў. У «Песняроў» свой стыль, свая творчая манера, свой асаблівы, ні з чым і ні з кім не параўнальны «почырк», які вызначае і адрознівае гэты калектыў ад соцень іншых.***

***І ўсё ж гісторыя «Песняроў» — гэта гісторыя беларускай і шырэй — савецкай эстрады апошніх дзесяцігоддзяў, гэта гісторыя айчыннага рока, бо менавіта беларускім «Песнярам» належыць гонар быць тут аднымі з першапраходцаў і першаадкрывальнікаў гэтага жанру сучаснай музыкі.***

***«Песняры» пачыналіся амаль 30 гадоў таму. На пачатку 60-х гадоў уралец Уладзімір Мулявін, выпускнік Свярдлоўскага музычнага вучылішча па класе гітары і домры, трапіў на Беларусь — служыць у войску.***

— Я заўсёды любіў народную музыку, — гаворыць народны артыст Беларусі У. Мулявін. — І вось, прыехаўшы сюды, упершыню пазнаёміўся з беларускімі народнымі песнямі, якія пакінулі ў маёй душы глыбокі след. Я не ведаў, што застануся тут, планаў ніякіх не было, я быў яшчэ зусім малады. І вось у арміі ў мяне з'явіліся першыя аранжыроўкі, я зрабіў такі вакальны квартэт. Тады былі вельмі папулярныя грузінскі квартэт «Арэра» і азербайджанскі «Гая», яны спявалі народныя песні ў эстраднай манеры. На Беларусі такога ансамбля не было, і мне падалося, што можна ў гэтым напрамку эксперыментаваць. І вось пасля арміі, у 67-м годзе, я зрабіў першыя спробы стварэння ансамбля.

**— Ён атрымаў назву «Лявоны»?**

— Так. Мы былі акампануючай групай танцавальнага ансамбля «Лявоніха», адсюль і назва — «Лявоны». Першага верасня 1969 года мы здалі сваю першую праграму мастацкаму савету, і гэты дзень стаў афіцыйным днём нараджэння ансамбля.

**— Вы адразу зрабіліся папулярнымі на Беларусі, вашы канцэрты праходзілі пры поўных залах. А вось усесаюзная слава прыйшла да ансамбля пасля ўдзелу ў конкурсе артыстаў эстрады ў Маскве.**

— Гэта было ў 70-м годзе. Мы атрымалі званне лаўрэатаў і літаральна ў адну ноч зрабіліся папулярнымі — адразу пасля трансляцыі па ТБ. Дарэчы, на гэты конкурс мы трапілі ўжо як «Песняры». Помню, калі нас упершыню аб'ўлялі пад гэтай назвай, мне чамусьці стала вельмі страшна...

**— Уладзімір Георгіевіч, прабачце за гэтае пытанне, але мяне ўвесь час цікавіла, чаму з самага пачатку «Песняры» існавалі выключна як мужчынскі калектыў? Чаму вы прынцыпова не дапускаеце ў свой ансамбль жанчын?**

— Я ніколі не вылучаю салістаў. Ніколі. У мяне заўсёды былі і ёсць ансамблісты. Людзі, якія павінны граць і спяваць. Браць салістку-вакалістку — гэта значыць, трэба стаяць і акампанаваць, а я з гэтым змагаўся на працягу ўсяго свайго жыцця. Я заўсёды быў супраць гэтага.

**— Можа быць, мужчынам прасцей разумець адно аднаго? А наогул, як складваюцца ў вас адносіны? Няўжо ж няма ніякіх неладоў?**

— Ну як без неладоў, што вы! Усё бывае. 25 гадоў — тэрмін вялікі. Гэта ж цяпер ужо, будзем лічыць, існуе трэцяе пакаленне ансамбля. З многімі музыкантамі мне даводзілася развітвацца, таму што ім не хапала нейкіх прафесійных і чалавечых якасцяў, неабходных для працы ў ансамблі. Хаця я вельмі строга заўсёды адбіраю людзей. Многа правяраю — іх адносіны да працы наогул, да беларускай мовы, да фальклору. Гэта галоўнае. Часта мне бывае цяжка размаўляць з хлопцамі. Напрыклад, я тры гады выношваў праграму паводле Маякоўскага. А яны не ўспрымалі ніяк, гаварылі: «Навошта нам Маякоўскі? Лепш зробім пару шлягераў ды зноў на ТБ пакажамся». А я не хачу! Мне абрыдла пад фанаграму пазіраваць і рабіць усмешкі. Я музыкант! І вось толькі пасля паспяховай прэм'еры яны казалі: «О! А мы не зразумелі спачатку...» Кожны музыкант — гэта асобны характар. Ён прыйшоў, напрыклад, нежанатым чалавекам у ансамбль. Завёў сям'ю — і ён ужо робіцца зусім іншым. Ужо ўплыў з'яўляецца нейкі іншы, сфера новая ў жыцці. І вельмі цяжка бывае разумець адно аднаго. І я вельмі шкадую аб многіх музыкантах, з якімі зараз не працую.

**— Вы сябе «дыктатарам» не адчуваеце?..**

— Не. У мяне ёсць мэта. Мэта, якой я дамагаюся ад усіх. Гэта, перш за ўсё, высокая культура выканання, гэта фальклор і гэта мова беларуская. Плюс чалавечыя якасці неабходныя. Прызнаюся, доўгія гады я быў пад уплывам многіх музыкантаў у калектыве. І мне даводзілася адыходзіць убок, віляць, так бы мовіць. Я думаў, можа, я састарэў, можа, я няправільна сваю пазіцыю выбіраю? Не, чым больш жыву, тым больш упэўніваюся, што я правільна трымаю свае пазіцыі.




На сёлетнім фестывалі «Славянскі базар» ансамбль адзначыў сваё 25-годдзе. Былі паказаны фрагменты новай праграмы, якую Уладзімір Мулявін назваў «Голас душы».

Аднойчы, у час чарговых гастроляў «Песняроў» у Амерыцы, прадстаўнікі беларускай дыяспары падарылі У. Мулявіну унікальны зборнік, які быў выдадзены ў Рыме ў 1946 годзе. Туды ўвайшлі беларускія малітоўныя тэксты. І вось на гэтыя тэксты У. Мулявін адразу напісаў дзве песні, якія сталіся асновай будучай праграмы. Ну, а потым да іх далучылася музыка на вершы Я. Купалы, Д. Мережкоўскага, С. Кірсанава. У стварэнні музыкі да «Голасу душы» ўдзельнічалі, апрача У. Мулявіна, і маладыя «песняры», чые імёны апошнім часам зрабіліся добра вядомымі на беларускай эстрадзе, — Алег Моўчан і Алег Казловіч. Як помняць тыя, хто змог трапіць на юбілейны канцэрт ці паглядзець яго трансляцыю з Віцебска, да ўдзелу ў праграме былі запрошаны Дзяржаўны камерны хор пад кіраўніцтвам Ігара Мацюхова і харэаграфічны ансамбль «Харошкі». Бяру на сябе смеласць сцвярджаць, што новая работа «Песняроў» — гэта найвыдатная падзея ў культурным жыцці Беларусі, а выкананне балады «Малітва» сталася адной з самых яркіх кульмінацый не толькі гэтага канцэрта, але й усяго фестывалю. «Песняры» ў бліскучай форме, і дай ім Божа не згубіць яе і надалей.

25 год — цэлае жыццё. «Песняры» пражылі яго яскрава, шчыра і плённа. Цяжка нават пералічыць усе ўзнагароды, якія атрымаў ансамбль, беручы ўдзел у розных конкурсах і фестывалях — у Маскве, Берліне, Сопаце, Каннах. «Песняры» выпусцілі 10 вялікіх дыскаў на фірме «Мелодия», дыск у Злучаных Штатах, кампакт-дыск у Галандыі на фірме «Поліграм». Дарэчы, апошні яны запісалі спецыяльна да свайго сёлетняга юбілею. У 1982 годзе фірма «Мелодия» ганаравала ансамбль прызам «Залаты дыск» за выкананне беларускіх народных песень. Сярод рок-музыкантаў «Песняры» заставаліся адзіным калектывам, які атрымаў такі прыз. У былым Савецкім Саюзе пласцінкі ансамбля выходзілі мільённымі тыражамі і заўсёды карысталіся вялікім поспехам у меламанаў. «Песняры» зняліся ў 4-х фільмах, стварылі больш за 10 тэматычных праграм-спектакляў, зрабілі незлічоную колькасць запісаў на радыё і ТБ, аб'ездзілі з канцэртамі амаль увесь свет. Дарэчы, калі я ўжо і прыгадала апошні факт, не магу не звярнуць увагу і на яго адваротны бок.

Мне здаецца, што апошнім часам «Песняры» абмінаюць беларускіх гледачоў, бо канцэрты ансамбля — прынамсі ў Мінску, зрабіліся, на жаль, з'явай вельмі рэдкай. Дый сам У. Мулявін у адным з нядаўніх інтэрв'ю газеце «Комсомольская правда» сказаў, што «Песняроў» цяпер больш ведаюць у Еўропе. Добра, што так. Канцэрты за мяжой заўсёды былі прэстыжнымі і выгаднымі для ўсіх нашых артыстаў. Але «Песнярам» — калектыву з такімі багатымі нацыянальнымі традыцыямі — не варта адмаўляць роднай беларускай публіцы ў сустрэчах са сваім мастацтвам. Бо ніякая іншая публіка не ведае «Песняроў» лепш, чым наша. І, адпаведна, ніякая публіка не ацэніць іхняе майстэрства так, як здатныя ацаніць у нас на Беларусі. І хай гэтая заўвага, якую я выказваю ад імя прыхільнікаў ансамбля, не будзе ўспрынята ў «Песнярах» як дакор. Гэта звычайнае жаданне бачыць, чуць і сачыць за працай выдатнага калектыву, без якога ўжо немагчыма ўявіць сабе ні гісторыю беларускай музычнай культуры, ні сённяшні дзень.

**Вольга БРЫЛОН**

*Фота М. МАРУГІ*

***Выкараненне царкоўнай уніі, якое здзяйснялася царызмам пад знакам аднаўлення нібыта «спрадвечна рускага праваслаўнага аблічча» большай часткі зямель, інкарпараваных у склад Расейскай імперыі ў выніку падзелаў Рэчы Паспалітай, цягнулася з канца XVIII да пачатку XX стагоддзя. Асвятленне гэтых падзей у працах расейскіх гісторыкаў, за выключэннем зусім нязначным, мела характар ілюстрацый да прынцыпаў «тэорыі афіцыйнай народнасці», дакладней да распрацаванай на яе аснове т. зв. «канцэпцыі вызвалення Заходняй Русі (Расіі)». «Отторгнуты насилием — воссоединены любовью» — вось дактрынальная формула, лейтматыў рускай дакастрычніцкай гістарыяграфіі. У часы камуністычнай імперыі сітуацыя істотна не змянілася. Згодна з названай двухбаковафальшывай формулай, якая, праўда, спакваля страчвала першародную сіметрыю, пераносячы акцэнт на «адарваныя гвалтам», складаліся зборнікі дакументаў, пісаліся манаграфіі і школьныя падручнікі, а ўсе тое, што прама ці ўскосна супярэчыла ёй, скажалася, перакручвалася, а то і проста замоўчвалася. У гэты разрад цалкам і надоўга трапіла апошняе (1875 г. паводле сінадальнага ўказа) «уз'яднанне». Думаю, наспеў час данесці нашай інтэлігенцыі і людзям паспалітым праўдзівую гістарычную інфармацыю аб ім, зрабіць новы невялічкі крок на шляху з палону каланіяльных міфаў. Звернемся да фактаў...***

# «САМАЯ ГАНЕБНАЯ СТАРОНКА...»

## З ГІСТОРЫІ АПОШНЯГА «ЎЗ'ЯДНАННЯ» БЕЛАРУСКІХ І ЎКРАІНСКІХ УНІЯТАЎ З РУСКАЙ ПРАВАСЛАЎНАЙ ЦАРКВОЙ (КАНЕЦ XIX — ПАЧАТАК XX СТСТ.)

Пасля далучэння ў 1833—39 гг. 12[illegible]5 уніяцкіх прыходаў Літоўскай і Беларускай епархій да Рускай праваслаўнай царквы уніяцтва захавалася (разглядаем тэрыторыю Расейскай імперыі) сярод беларусаў і ўкраінцаў Падляшша, дакладней часткі яго (па адміністрацыйнаму дзяленню 1866 г. — Аўгустоўскага павета Сувалкскай губерніі, Мазавецкага павета Ломжынскай губ., Сядлецкай губерніі) і Халмшчыны (Люблінскай губерніі) — земляў, якія па рашэнні Венскага кангрэса (1815) аказаліся ў граніцах Царства Польскага.

Варта зазначыць, што і тут, у параўнальна невялікай (265 прыходаў) Холмскай уніяцкай епархіі ў 20—40-я гады царызм імкнуўся здзейсніць «уз'яднанне». Спачатку расейскае знешнепалітычнае ведамства на чале з К. Нэсельродэ дабіваецца вывядзення епархіі з-пад юрысдыкцыі галіцыйскага мітрапаліта. Улетку 1829 г. папа рымскі выдае спецыяльную пастанову, з ім пагаджаецца і Франц I. I адразу ж, не дапускаючы ўзмацнення непасрэднай сувязі епархіі з Ватыканам, яе падпарадкоўваюць Урадавай камісіі ўнутраных спраў і веравызнанняў, заснаванай Мікалаем I двума гадамі раней. Большая частка епархіяльнага духавенства даволі хутка распазнала настроі новага кіраўніцтва і старалася процістаяць яго спробам умяшання ў царкоўнае жыццё. У 1834 г. Холмскі епіскап Філіп Шумборскі адхіліў рэкамендацыю дырэктара Урадавай камісіі выправіць літургікон, прыняты на Замойскім сабора (1720), спасылаючыся на тое, што абрады пазбаўлены яўных анахранізмаў, нудоты, празмернай складанасці, а ўсе іхнія «лацінскія наслаенні» абумоўлены выключна неабходнасцю прымаць у васіліянскія кляштары рымска-каталіцкіх інакаў. У разгорнутым выглядзе гэтыя думкі (разам з тэзаю аб мажлівасці выкарыстання ў набажэнстве, казаннях і спевах розных гаворак і неуніфікаванасці абрадаў) былі прадстаўлены ў акруговым пасланні холмскага капітула (1839). У той жа час рэлігійная палітыка царызму на Беларусі ў 30-я гады абудзіла і прывяла ў рух групоўку холмскіх уніяцкіх клірыкаў прамаскоўскай арыентацыі. Актыўнай фігурай у гэтым асяроддзі быў Мікалай Пацей — прамы патомак таго самага берасцейскага кашталяна Адама (Іпація) Пацея, аднаго з галоўных творцаў царкоўнай уніі 1596 г. Яшчэ бацька Мікалая напісаў кнігу, дзе выразіў свой сантымент да «чыстаты праваслаўя». Сын пайшоў далей. Супольна з аднамысніками (усіх прыблізна 30 чалавек) ён уваходзіць у сакрэтныя зносіны з І. Сямашкам і просіць «прывесці холмскіх уніятаў да праваслаўя». Такія галасы ў Св. Сінодзе заўсёды добра чулі. I ў 1840 г. Філіп Шумборскі з іншымі вядомымі ў епархіі уніяцкімі дзеячамі (Паўлам Шыманскім, Іаанам Цэрашкевічам) былі выкліканы ў Пецярбург на перамовы... Нечакана супраць «уз'яднання» рашуча выступіў граф Іван Паскевіч, намеснік Царства Польскага. Што кіравала ім, удзельнікам ледзь не ўсіх войнаў, якія вяла Расея на працягу першай паловы XIX ст., уціхамірнікам Польшчы (1831) і Венгрыі (1849), сапраўдным слугою цара? Цяжка аб гэтым меркаваць: не стае дакументальных даных. Найбольш верагодна, аднак, што цвярозы розум намесніка не мог не заўважыць і, канешне, зусім не жадаў распаўсюджвання на частку «свайго» выбухованебяспечнага рэгіёну тых хваляванняў, што ахапілі суседнюю, Сямашкаву епархію. Узяць, напрыклад, вельмі блізкі ва ўсіх адносінах Бельскі павет Гродзенскай губерніі. У сяле Нова-Бярозава народ тады ледзь не павесіў на званіцы бельскага благачыннага Адама Кастыцэвіча «за адступніцтва». У сяле Чыжы прыхаджане са сваім святарам Фаўстам Гаворскім не выдалі царкоўныя ключы ні нанава прызначанаму папу, ні благачыннаму (як «схізматыкам»), ні земскаму спраўніку, і толькі атрад з трох рот салдат прымусіў тутэйшы люд супакоіцца. У Старым Корніне мясцовы святар Сімяон Кузьмінскі праклінаў з амбону «ерэтыка і схізматыка» Сямашку і, відаць, меў падтрымку сярод парафіян, бо пераведзены на ягонае месца ў гэта сяло праваслаўны іерэй айцец Келясцін Брэн больш за паўгода калі і хадзіў у царкву, дык толькі пад аховай тысяцкага. Фактаў было многа, занадта многа, каб увогуле не лічыцца з імі. Так ці інакш, вярнуўшыся з Пецярбурга ў Варшаву, І. Паскевіч апавясціў сваё акружэнне, што яму «ўдалося такі адстаяць сваіх уніятаў». Пытанне было адкладзена да лепшых часоў. Праўда, ініцыятыву прамаскоўскай групоўкі заўважылі і ацанілі. Некалькі яе прадстаўнікоў, у т. л. і вышэйпамянёны Мікалай Пацей, у 1852 годзе былі прыняты на казённы пенсіён у Маскоўскую і Кіеўскую духоўныя акадэміі.

Новы наступ на унію пачаўся пасля задушэння паўстання 1863 года. Аўтарытэтны ва ўрадавых колах спецыяліст па ўсіх «заходнерускіх» праблемах, прафесар С.-Пецярбургскай духоўнай акадэміі Міхаіл Каяловіч у сваёй лекцыі «Об этнографической границе между Западной Россией і Польшей» (03.04.1864 г. яна ўпершыню чыталася ў Імператарскім Рускім геаграфічным таварыстве, а пазней тыражавалася афіцыёзам) звярнуў увагу «патрыятычнай публікі» на тое, што ў межах Царства Польскага жывуць беларусы і ўкраінцы прыблізнай колькасцю 250000 чалавек, і амаль усе яны, апроч некалькіх тысяч беларусаў-каталікоў (заходняга абраду), — уніяты па веравызнанні. М. Каяловіч выразіў упэўненасць, што «гэтыя заходнерусы» чым далей, тым больш будуць усведамляць неабходнасць «нацыянальнай і рэлігійнай незалежнасці ад Польшчы» і «... пачнуць імкнуцца да сваіх натуральных цэнтраў». Расеі ж застанецца толькі «прыгарнуць родныя часткі» і «... тады ўвесь свет убачыць, што яшчэ не настаў канец падзелам Польшчы». Крыху пазней, калі царызм пачаў крок за крокам знішчаць апошнія сляды аўтаноміі Царства Польскага (Прывісленскага краю, паводле новай урадавай назвы), прафесар згадзіўся з тым, што дзеля «выратавання заходнерусаў ад паланізма і лацінства», «ад польскай шляхты, ксяндзоў і жыдоў» неабходна зрабіць так, каб «заходняя этнаграфічная ўскраіна Расеі была не толькі ў межах рускай дзяржавы, але і ў межах рускай царквы». Прапазіцыі М. Каяловіча прагучалі наўздагон магутнай асіміляцыйнай хвалі, якая накатвалася ў той час на захад імперыі, указалі ёй яшчэ адно новае рэчышча.

У сярэдзіне 60-х урад прымае рашэнне «вярнуць грэка-каталікоў Холмскай епархіі ва ўлонне мацярынскай царквы» і, такім чынам, канчаткова выкараніць рэшткі уніяцтва ў дзяржаве. Як і калісьці Сямашка з Філарэтам (дарэчы кажучы, мітрапаліт маскоўскі Філарэт (В. Драздоў) аж да самай смерці (1867) быў надзвычай уплывовай асобай у царкоўна-палітычных колах і як член Сінода меў пэўнае дачыненне і да апошняй антыуніяцкай кампаніі), новыя рупліўцы вынішчэння уніі — В. Мілюцін, В. Чаркаскі, Ю. Самарын ды іншыя дзяржаўныя мужы панславісцкай загартоўкі, што ўгняздзіліся ва ўрадавых камітэтах Царства Польскага, — зыходзілі з таго, што адмыслова падабраныя кадры прыходскага духавенства ёсць залогам поспеху ўсёй справы, бо «паства пойдзе за пастырамі сваімі». А пачынаюць яны, гэтаксама па старому сцэнарыю, здалёк — з псеўдацнатлівых клопатаў пра абрадавую чысціню. Чыстка абрадаў ад лацінскіх наслаенняў не насіла самадастатковага значэння, наадварот, яна разумелася перадусім як своеасаблівы пробны камень, тэст, дазваляючы выявіць сярод парафіяльных святароў агентаў «уз'яднання» in statu nascendi. Але адразу было ясна, што групоўка мясцовых рэнегатаў зусім нешматлікая. І ўлады прымаюць рашэнне запрашаць у епархію святароў з Галіцыі, адбіраючы кандыдатаў з ліку тамтэйшай партыі змагароў ва ўсходнюю абраднасць. Выхадцы з Галіцыі аказаліся вельмі дарэчы і тым, што сваю прыхільнасць чысціні ўсходнеправаслаўнага абраду абгрунтоўвалі спасылкамі на папскія дэкрэты, якія баранілі недатыкальнасць абрадаў ва уніяцкай царкве. Здаецца, не будзе залішнім нагадаць чытачу, што пастановы такога характару прымалі: Яўгеній IV, Леў X, Кліменцій VII, Кліменцій VIII, Бенядзікт XIV (апошні Еўхалогіене 1755 г. у трактоўцы сімвала веры ішоў уразрэз з Замойскім саборам, а дзвюма сваімі канстытуцыямі (1743 і 1744 гг.) забараняў уніятам пераходзіць у рымскае каталіцтва, але дазваляў р.-католікам далучацца да уніяцкай царквы). Улады атрымалі магчымасць імітаваць ледзь не апостальскую гарлівасць, выстаўляючы свае захады як дзейнасць на карысць аўтэнтычнага уніяцтва. Гэта як нельга лепш адпавядала планам правесці ўсю падрыхтоўку да «ўз'яднання» з «мажлівай цішынёй», каб, як гаварыў у свой час Філарэт, уніяты «позна прачнуліся ад процідзеяння».

Тым часам некаторыя выхадцы з Галіцыі, прызначаныя на свяшчэнніцкія месцы, так спяшаліся давесці сваю адданасць справе «самадзяржаўя, праваслаўя...», што забывалі пра тактыку. Выпраўляючы «лацінізмы» мясцовага уніяцкага абраду, яны падчас імшы маглі запрасіць у царкву рускіх вайсковых пеўчых, а тыя з салдацкай прамалінейнасцю змянялі і літургічныя тэксты, і ўвесь парадак набажэнства. Святар-галічанін у Храме г. Бельска-Падляшскага, дзе захоўваліся мошчы зусім нядаўна (1867) кананізаванага Піем IX Іясафата Кунцэвіча, заявіў, што не прызнае гэтага святога, бо ён — «вораг рускага народа...» ды інш. Настаяцель уніяцкага храма ў Варшаве адкрыта стаў замест папы памінаць Свяцейшы Сінод. Былі выпадкі, калі расейскія афіцэры заходзілі падчас богаслужэння ў цэрквы, усяляк ганілі вернікаў і прадракалі немінучае зліквідаванне уніі з пакараннем яе адэптаў як «злосных лацініннікаў» і «праціўнікаў гасударавай веры».

Людзі разумелі (іншае было б дзіўным), куды ўсё ідзе. Вёскі поўніліся чуткамі і жылі ў напружаным чаканні. І калі ў 1866 г. за ўдзел у апошнім (1863—1864) паўстанні быў сасланы холмскі епіскап Іаан Калінскі, пачаліся хваляванні уніяцкага люду, асабліва моцныя ў паўночнай, беларускай частцы епархіі. Губернскае начальства накіроўвае ў раёны канфліктаў атрады паліцыянтаў і войскі...

Пасля падаўлення беспарадкаў епархію перадалі ў распараджэнне Міністэрства народнай асветы (зазначу: тагачасны міністр асветы Д. Талстой і яго пераемнік К. Пабеданосцаў былі адначасова і кіраўнікамі ведамства праваслаўнага веравызнання, г. з. — Обер-пракурорамі Свяцейшага Сінода). У Міністэрстве асветы дзеля кантролю за епархіяй была створана спецыяльная канцылярыя. Увайшоў у яе склад і ўсюдыісны ментар М. Каяловіч. Новым епіскапам холмскім быў пастаўлены львоўскі пратаіерэй Міхаіл Куземскі, вядомы эрудыцыяй, гнуткасцю ў царкоўных справах.

З М. Куземскім у Пецярбурзе звязвалі надзеі на мірнае, без узрушэнняў і бунтаў «уз'яднанне». Але пралічыліся: шчыры прыхільнік вяртання аблатыненых сваіх адзінаверцаў у родную уніяцкую царкву, вызвалення апошняй з-пад уплываў польскіх, М. Куземскі, аднак, да стратэгічных праектаў урада ставіўся, прынамсі, без спачування. Больш за тое, дбаючы аб умацаванні царквы, ён выношваў задуму ўзнаўлення іерархічнай сувязі з Галіцыяй, а праз яе пасрэдніцтва — і з апольстальскай сталіцай. Патомны пастыр (фамілія Куземскіх займала свяшчэнніцкія пасады ўжо чатыры стагоддзі) у сваіх зваротах да духавенства заклікаў адрозніваць польскую нацыянальна-рэлігійную экспансіўнасць і пазіцыю Святога Прастола (Sancta Sedes). Ён называе цэлы шэраг рымскіх першасвяшчэннікаў (Урбан III, Бенядзікт XIV, інш.), чые імёны, на ягоны погляд, «упісаны ў гісторыю уніяцкай царквы залатымі літарамі». Неадназначна падыходзіў Куземскі і да ачышчэння абрадаў. Ён сцвярджаў, што з'явы апошніх дзесяцігоддзяў — польскія песнапенні і модлы (гадзінкі, ружанцы ды інш.), арганы, што дзе-нідзе ўвайшлі ў храм, — трэба паступова скасаваць. Але ж некаторыя драбніцы (прыкладам, кленчанні, канфірмацыя) існуюць у царкве ўжо стагоддзі, лічыў епіскап, і пры гэтым ніяк не пагражаюць ні адметнасці уніяцтва, ні нават інтарэсам Расеі. «Руская ідэя (...) — не ў тым, каб званочкі, манстрацыі і лаўкі знішчаць», — заўважаў ён ваяўнікам за найхутчэйшае абрусенне. Усё гэта кепска стасавалася з намерамі Сінода, і ўжо ў 1871 г. М. Куземскі, «хлопскі біскуп», як з'едліва атэставаў яго карэспандэнт часопіса С.-Пецярбургскай духоўнай акадэміі, быў высланы назад у Аўстра-Венгрыю. «Ён ледзь не больш адданы папству, чым рускай царкоўнасці», — растлумачыў М. Каяловіч ужо post factum.

Навучаны памылкаю з Куземскім, урад не спяшаўся з пастаўленнем новага епіскапа. Прэтэндэнт на гэту пасаду а. Маркел Попель, таксама выхадзец з Галіцыі, прызначаецца адміністратарам епархіі. Але на гэты раз выбар быў зроблены правільна. Нягледзячы на сваё становішча, Попель паказаў сябе сапраўдным «ревнителем» праваслаўя, дзейнічаючы з той шалёнасцю, якую можна напаткаць, бадай, толькі ў празеліта-выхрыста, што ўсяляк імкнецца разбурыць тое, чаго ён выракся.

З 1871 г. колькасць галіцкіх святароў у епархіі павялічвалася імкліва. Ім аддавалася яўная перавага ў кадравыхператасоўках, якія праводзіла царкоўнае і цывільнае начальства. Яны, галічане, асталёўваліся грунтоўна, шукалі вакансіі дый перацягвалі на іх сваякоў і сяброў сваіх з Галіцыі. Народ даўно ўгледжваў у новых свяшчэнніках тайных «схізматыкаў». Такая ж рэпутацыя («здрадніка веры, перавернутага ў схізму») была і ў кіеўскага архіепіскапа Іосіфа, які пасвячаў у сан накіроўваемых у епархію галічан. Часцяком здаралася, што замена парафіяльнага святара сустракала зацятае супраціўленне вернікаў. У гэтых нападках яна доўжылася гады, суправаджаючыся, як пісалася ў афіцыйных справаздачах, «мерами, могущими образумить фанатиков». Адзін толькі прыклад, які дае ўявіць, што стаяла за канцылярскай фразай. У вёску Груд, што недалёка ад Бельска-Падляшскага (па дарозе на Янаў-Падляшскі), у 1867 г. прызначылі новага свяшчэнніка. Прывёз яго Маркел Попель, тады яшчэ саборны пратаіерэй. Вяскоўцы, аднак, атачылі сваю царкву і нікога не ўпусцілі. Не дапамаглі гарачыя намовы. Попель ад'ехаў раз'юшаным, пагражаючы нябеснымі і зямнымі карамі за непаслушэнства. У верасні таго ж года ў вёску прыйшлі салдаты (сотня казакаў і рота пяхоты) і расквартараваліся па хатах. Цэлыя два месяцы сялян змушалі рыць равы, збіраць ураджай; восень была дажджлівай, усё гніло на палях. Скаціна ішла пад нож салдацкі. Свірны пусцелі, бо казакі кармілі сваіх коней толькі чыстым збожжам. Не абцяжарваючы сябе нарыхтоўкай дроў, вайскоўцы пускалі на вогнішча платы, дрэвы з садоў, часткі гаспадарчых

*(Працяг на стар. 14-15)*

# ДА МАГІЛЫ ПЕСНЯРА



**Як заўсёды, на Вайсковых могілках гэтым днём было людна. Ушанаваць памяць Якуба Коласа ў гадавіну яго смерці прыйшлі пісьменнікі, навукоўцы, дзеячы культуры, працаўнікі музеяў, выдавецтваў, рэдакцый газет і часопісаў. Пасля ўскладання кветак на магілу незабыўнага дзядзькі Якуба адбыўся памінальны мітынг. Словы пра неўміручасць творчасці вялікага паэта сказалі народны пісьменнік Беларусі І. Чыгрынаў і член-карэспандэнт АН Беларусі М. Мушынскі. Паэты М. Аўрамчык і Зніч прачыталі вершы, прысвечаныя памяці Якуба Коласа.**

**Пясняр і сёння ў поступе нашага нялёгкага жыцця.**

**С. ІВАНЧЫК**

*На здымку: кветкі да магілы бацькі ўскладаюць сыны Міхась і Даніла.*

*Фота А. ФЕДАРЭНЧЫКА*

# ЗНАЁМСТВА З НОВЫМ ДАВЕДНІКАМ

**Як мы паведамлялі раней, выдавецтва «Беларуская энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі выпусціла чарговае энцыклапедычнае выданне — «Блакітная кніга Беларусі». Гэты даведнік, безумоўна, спатрэбіцца кожнаму, хто хоча паболей ведаць пра водныя аб'екты Бацькаўшчыны. Пра гэта гаварылася ў час прэзентацыі даведніка, што прайшла ў Мінску ў Доме кнігі.**

**З новым выданнем прысутных пазнаёмілі намеснік галоўнага рэдактара «БелЭн» Я. Малашэвіч, намеснік адказнага сакратара М. Курловіч, а таксама начальнік упраўлення навукі і замежных сувязяў Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя Рэспублікі Беларусь А. Рачэўскі.**

# «ПРАМЕНЬ»: ПРАВА НА ЖЫЦЦЁ

**Як мы паведамлялі раней, у канадскім горадзе Квебеку беларусы замежжа выдаюць часопіс «Прамень».**

**Выйшаў і з'явіўся на Бацькаўшчыне яго чацвёрты нумар. Аргументаванасцю разваг, публіцыстычнай завостранасцю вызначаюцца артыкулы Р. Кардонскага «Нет такого народа! Мы все российский народ?!» і М. Белавуса «Што гэта такое «дружба народов» па-расейску?», аўтары якіх вядуць вострую палеміку з тымі, хто адмаўляе беларусам у праве звацца беларусамі. Змешчана інфармацыя з жыцця эміграцыі. Закранаецца і пытанне далейшага лёсу «Праменя».**

**Яно, у прыватнасці, абмяркоўвалася на чарговым пасяджэнні галоўнай управы Згуртавання беларусаў у Квебеку. Большасць прысутных пераканана, што выданне часопіса неабходна працягваць, але трэба на яго выпуск шукаць сродкі.**

**Рэдактарам «Праменя» прызначаны Р. Кардонскі.**

Н.К.

# «САМАЯ ГАНЕБНАЯ СТАРОНКА...»

*(Пачатак на стар.13)*

будынкаў, дзверы з хат. На заканчэнне «выхаваўчай» акцыі некалькіх сялян арыштавалі і накіравалі ў астрог, а колішняга пробашча саслалі. Але парафіяне не спынілі супраціўлення. Каб іх канчаткова «образумить», спатрэбіліся новыя карна-грабежніцкія казацкія наезды. «Указовы» святар заняў пасаду толькі ў 1871 годзе.

Па ўказанні Сінода М. Попель бярэцца за рэфармаванне царкоўнага жыцця на ўзор унутраных губерній Расеі. Кансісторыя выдае спецыяльныя інструкцыі. Выконваючы іх, свяшчэннік не толькі перарабліваў богаслужэнне па кнігах расейскага друку з іх цьмянай старабалгаршчынай, але і змяняў інтэр'ер храма: знішчаў бакавыя алтары для чытанай абедні, т. зв. ціхай імшы, харугві, абразы, статуі, арганы, ладзіў іканастас, дзе яго не было. (У шэрагу парафій Бельскага і Уладаўскага благачыння па ініцыятыве святара будаваліся печы; раней уніяцкія бажніцы звычайна не ацяпляліся і, забягаючы наперад, варта сказаць, што люднасць не прыняла гэтай навацыі, пабудаваныя печы аб'явіла месцам, назнарок створаным для практыкаванняў чорта ў пекле, і забыла дарогу да храма, ёмішча «нячыстай сілы»). Грубасць, пагардлівасць да традыцыі, зладзеяватая паспешнасць сталіся характэрнымі рысамі пераўтварэнняў. Гэта датычылася і знаных старажытных храмаў (прыкладам, знакамітай царквы ў Бельску-Падляшскім, пабудаванай яшчэ ў 1690 г канцлерам Вялікага княства Літоўскага Станіславам Радзівілам, дзе ў 1874 г. мошчы ненавіснага І. Кунцэвіча знеслі ў скляпенне і закапалі), і нікому не вядомых гаротных вясковых цэркавак.

Дзеянні свяшчэннікаў выклікалі пратэсты парафіян. Амаль што ў кожным прыходзе існавалі здавён-даўна царкоўныя брацтвы. Члены брацтваў падтрымлівалі сваю царкву колькі маглі і добра помнілі аб тым, што яны ці іх дзяды для яе зрабілі. Нярэдка старэйшыя братчыкі з гневам выказвалі святару, што ён тут прышлы, выпадковы чалавек, а яны абраныя прыходам, і змяняць што-небудзь без іх згоды — гэта зняважа. Паводле прадпісанняў кансісторыі выганялася з храма і забаранялася ў пазацаркоўным асяродку т. зв. прыбавачнае богаслужэнне, што таксама прыводзіла да абурэння вернікаў. І невыпадкова. Прыбавачнае богаслужэнне спрадвечна існавала ў каталікоў усходняга абраду, ім людзі вельмі даражылі, традыцыйна самі з натхнёнасцю ўдзельнічалі ў рытуалах: у храмах, падчас хрэсных хадоў, шэсцяў ад адной капліцы да другой, хаджэнняў па хатах імі выконваліся розныя рэлігійныя спевы, галасна чыталіся малітвы і г. д. Зрэшты, як нішто іншае распальвала крыўды мана. Кожная новая мера пралівала выкрывальнае святло на папярэднюю, што называлася ў папоўскіх дэкларацыях апошнім, канцавым пунктам рэформаў, за якім — недатыкальнасць уніі, звязаных з ёю «любых сэрцу звычак».

У 1873 г. кансісторыя выдае новы цыркуляр, згодна якому святары абавязваюцца з 1874 г. увесці «цельное русское богослужение». Калі свяшчэннік не выконваў гэтага альбо чамусьці марудзіў, яго звальнялі, а вакансію неўзабаве займаў новы пастыр з маладых галічан. Такім парадкам за адносна кароткі тэрмін пазнімалі больш сотні мясцовых святароў. У выніку на пачатку 1874 г. «сінодапаслухмяныя» галічане складалі большасць прыходскага кліру епархіі. Такое становішча, як ужо гаварылася, было спершапачатку запланавана ў якасці галоўнай перадумовы «ўз'яднання».

Тым часам у шмат якіх парафіях сітуацыя моцна абвастрылася. Успыхвалі бунты. Прыхаджане аваладвалі цэрквамі, выганялі свяшчэннікаў, маліліся і не падпарадкоўваліся загадам начальства. Асабліва часта лакальныя паўстанні адбываліся ў Сядлецкай губерні, на славянскім пагранíччы, дзе, па вызначэнні М. Каяловіча, «малорусы, белорусы и мазуры сильно смешаны, и эта смесь окрашена густой краской ультрамонтанского фанатизма». За лепшы сродак спынення беспарадкаў губернскае кіраўніцтва лічыла кавалерыю, якая шаблямі ды бізунамі разганяла народ. Былі ахвяры.

З новай сілаю бунты ўзнавіліся ў канцы вясны 1874 г. пасля выхаду 13 мая папскага брэвэ «Omnem sollicitudinem», якое санкцыянавала існуючыя ва уніяцкай царкве адхіленні ад усходняга абраду і гэтым самым падкрэслівала незаконнасць усіх «чыстак», што праводзіў расейскі урад. Пісаныя рукой і друкаваныя лісты папскага паслання наклейваліся на карчмах, раскідваліся па вёсках. Хутка яны атрымалі назву «нябесных паперак»: пайшлі пагалоскі, што «пісьмо папежа ўпала з Неба». Хваляванні ахапілі дзесяткі прыходаў. Ніякага кампрамісу, мірнага выйсця са становішча ўлады не шукалі. Прыклад падаў сам Імператар Аляксандр II, калі падчас візіту ў Варшаву адмовіўся прыняць уніяцкую дэпутацыю, перадаўшы ёй праз графа П. Кацабу, што аніякія просьбы не могуць быць выкананы. У «мяцежныя» вёскі былі ўведзены, як піша М. Каяловіч, «экзекуцыйныя атрады» і пакінуты на поўнае забеспячэнне насельніцтва. Іх задачы заключаліся ў тым, каб уціхамірыць народ і ўзяць з яго пісьмовыя абяцанні безумоўнай лаяльнасці — «падпіскі». Рэквізіцыі, аднак, не прынеслі жаданых вынікаў, на гэты раз яны толькі спарадзілі новыя канфлікты і напалілі абстаноўку. А пра «падпіскі» сяляне не хацелі нават і чуць, у іх разуменні гэта патрабаванне мела асобы сэнс. Усе ведалі, як у шэрагу мясцін улады дамагаліся падпісак, перш чым зачыніць касцёл, а старыя добра памяталі, што перад «ўз'яднаннем» 1833—39 гг. таксама збіраліся падпіскі. Людзі былі ўпэўненыя, што і цяпер іхнія падпіскі будуць вытлумачаны як згода пакінуць унію, і ўпарта адмаўляліся падпісваць любыя паперы. «Каб прымусіць народ расхадзіцца ад цэркваў па хатах і заяўляць пісьмова пакорлівасць уладам, пушчаны былі ў ход казацкія нагайкі, — сведчыць М. Каяловіч. — Пераконаныя гэтай мерай (просты і важкі аргумент. — **І. М.**) заяўлялі, што яны даюць падпіску, — яны цяпер праваслаўныя...»

«Уз'яднанне» перайшло ў новую стадыю. Вышэйшая бюракратыя загадвала зафіксаваць «волю народа» ў паперах. Па благачынням духавенства стала «саборыкі» складаць, дзе пісала, што прагне далучыцца да прабацькаўскай царквы разам з пастваю. Згоды паствы яно, разумеецца, не мела. Каб выправіць гэты недахоп, губернскія «столаначальнікі» паехалі па гмінах, кшталтам «пытаючыся згоды народа на ўз'яднанне», атрымліваючы пры гэтым адпаведныя пасведчанні ад валасных упаўнаважаных, або «гмінныя прыгаворы». У сапраўднасці ж збіраліся меркаванні саміх губернскіх службоўцаў ды дзе-нідзе гмінных войтаў, бо далей абяцанняў нарэзаць усім «обратившимся в православие» зямлі з царскае ласкі, а «упорствующих» пусціць з торбамі чыноўніцкая «дыпламатыя» не прасунулася, і дыялог з народам скончыўся, так і не пачаўшыся.

Восенню 1874 г., паводле афіцыйнай версіі, квазіплебісцыт быў завершаны. Выснова адзіная: уніяты хочуць «стаць адной веры з Белым Царом». У Пецярбурзе, напэўна, сумняваліся наконт рэпрэзентацыйнасці гэтых даных, бо палічылі за неабходнае перападпарадкаваць епархію Міністэрству ўнутраных спраў (ці не красамоўны дэбют); 11 снежня 1874 г. Аляксандр падпісаў адпаведны ўказ, а з наступнага дня і да пачатку мая 1875 г. начальнікі губерній ужо рапартавалі міністру ўнутраных спраў аб далучэнні да праваслаўя новых і новых прыходаў. Усюды, як паведамлялася ў тэлеграмах, можна было назіраць адно «умилительные торжества», «братские лобызания древле-православных с воссоединяющимися», а на народных трапезах чуліся тосты за здароўе «обожаемого Монарха», суструтыя «трогательными излияниями радости», «единодушными криками «Ура»...», «выражениями беспредельной верности и счастья...» і г. д.

Адначасова з арганізацыяй «торжеств» і пісаннем рэляцый улады працягвалі «работу» сярод непакорлівых. Колькі тут было гнюснай вынаходлівасці! Польскі пісьменнік Уладзіслаў Рэймант, вандруючы ў пачатку нашага стагоддзя па падляшскім краі, занатаваў расказ аднаго тутэйшага старога аб тым, што яму давялося перажыць у маладыя гады. Вось фрагмент з гэтага невясёлага ўспаміну:

— Якраз на пачатку 1875 г. прыслалі нам цэлыя дзве роты войска і раскватаравалі па хатах (...). Рознымі шляхамі спрабавалі сагнуць нас на свой капыл, а калі не дапамаглі ані просьбы, ані грозьбы, ані нават нагайкі, дык прыдумалі такую штуку: ад світання выганялі ўсіх на цэлыя дні ў поле і загадвалі зграбаць снег рукамі. А халодна той зімой было, мароз траскучы, ледзяны вецер... Палова людзей паадмарожвалі сабе рукі і ногі, але ніхто ад сваёй веры не адрокся. Тады ўзяліся за іншы спосаб: забаранілі нам карміць жывёлу. Цэлы тыдзень чуваць было рыканне скаціны. Быдляткі шалелі з голаду, грызлі яслі, церліся аб сцены і здыхалі. Нават вады нельга было ім занесці, нават жменю саломы падкінуць, бо зараз былі ў працы нагайкі. Сэрца разрывалася ад жалю, людзі млелі, біліся ў канвульсіях, кідаліся ў ногі служылым і, як сабакі, скуголілі, кленчылі аб літасці над быдляткамі. Але дарэмна, бо тыя мовілі сваё: «Падпішыцеся». Дык жа аб збавенні душы ішла гаворка, таму вырашылі ўсё страціць, але не падпісваць, не скарацца. І калі адышлі салдаты, засталіся толькі голыя сцены, ніводнага быдляткі, ні збожжа, ні бульбіны, ні скібкі хлеба, нічога, толькі сіроцкі плач, голад, хваробы і смерць. І калі б не міласэрнасць Боская...

25 сакавіка 1875 года, акурат на Звеставанне, самадзержац і члены аўгусцейшага сямейства прымалі дэлегацыю уніяцкіх святароў (Попель, Пацей, Ліўчак і інш.), якія, прадстаўляючы ўсіх благачынных епархіі, прасілі «ўмацаваць далейшы лёс уніятаў (...) дазваленнем ім уз'яднíцца з іх прабацькаўскай праваслаўнай царквой».

Першага мая 1875 г. Обер-пракурор Сінода Д. Талстой падпісаў указ аб прыняцці уніятаў холмскай епархіі ў склад «святыя православно-католическия восточныя церкви», утварэнні аб'яднанай Холмска-варшаўскай епархіі і падпарадкаванні яе Св. Сіноду. Гэты ўказ, удастоены «Высочайшего» зацвярджэння, праз некалькі дзён быў перададзены ў Сенат для ўключэння ў зборнікі законаў Імперыі. Для ўрада уніяты больш не існавалі, з гэтага дня яны лічыліся праваслаўнымі. Афіцыйныя асобы паведамлялі аб рашэнні цара «цвёрда і непахісна абараняць насельніцтва епархіі ад варожай прапаганды, схіляючай народ з таго шляху, які ім самім цяпер зусім свабодна і свядома выбіраецца». Suprema lex est regis voluntas — сталічныя газеты загаварылі аб новай вялікай «царкоўнай перамозе» як доказе рэлігійнай свабоды ў Расеі. «Уніяты вяртаюцца ва ўлонне царквы іх продкаў без удзелу і ўплыву праваслаўных дзеячаў і нават насуперак іх спадзяванням», — запэўніваў свайго чытача «Церковный Вестник».

Улетку 1875 г. здавалася, што ўсё скончана. У межах Імперыі уніяцтва больш не існавала, службоўцы МУС атрымалі новыя чыны, Маркел Попель — ордэн Св. Ганны і — пасля ўрачыстай хіратаніі ў Ісакіеўскім саборы — месца вікарыя люблінскага, епіскапа холмскага і варшаўскага. Больш за 120 папоў епархіі па сінадальным указе былі ўзнагароджаны наперснымі крыжамі, камілаўкамі і скуф'ямі.

Тым часам група верных уніі святароў накіроўваецца ў Рым і дабіваецца аўдыенцыі ў папы. На дыпламатычныя сродкі надзеі не было, усе разумелі, што царызм не для таго ладзіў бізуновыя купелі, каб, саступаючы хадайніцтвам папы, захаваць унію нават у мізэрных памерах. Папа Пій IX вырашае заснаваць у Кракаве місіянерскую кафедру, якая ўтрымала б у кананічнай залежнасці ад апостальскай сталіцы каталікоў усходняга абраду. Неўзабаве на Падляшшы і Холмшчыне з'явіліся пераапранутыя ў гандляроў місіянеры. Яны пераконвалі уніятаў стаяць за веру, а калі гэта робіцца немажлівым, — пераходзіць барзджэй у рымскае каталіцтва. Тым, хто згаджаўся на апошняе, яны выдавалі метрычныя пасведчанні аб хрышчэнні, вянчанні. Пасля зацвярджэння рускім консулам у Кракаве і чыноўнікам расейскага міністэрства замежных спраў у Варшаве даныя з пасведчанняў заносіліся ў кнігі мясцовых каталіцкіх прыходаў і, такім чынам, набывалі юрыдычную сілу. Вельмі хутка, аднак, улады спахапіліся і аб'явілі кракаўскія акты незаконнымі. Так, напрыклад, «кракаўскі шлюб» кваліфікаваўся як шлюб паміж праваслаўнымі, аформлены па каталіцкім абрадзе. Асобы, якія прадстаўлялі дакументы аб вянчанні ў кракаўскага святара, павінны былі — калі не згаджаліся вянчацца ў праваслаўнай царкве — разысціся, у адваротным выпадку іх чакаў штраф 20—30 руб. або арышт.

Дзе-нідзе уніяцкае простанароддзе яшчэ спадзявалася на імператарскую справядлівасць. Распаўсюджваліся нават чуткі, што ўказа не было, ці ён скасаваны ўжо, што цар — ледзьве не прыхільнік каталіцтва, а знішчэнне «еднасці» — справа рук хціўых папоў дый чыноўнікаў. Гэтаму спрыялі расказы дэмабілізаваных салдат аб тым, як яны бесперашкодна карысталіся ў войску паслугамі ксяндза-капелана, і нават некралогі на буйных каталіцкіх дзеячаў, што змяшчаліся ў афіцыйным друку. Але ішоў час, ілюзіі пакрысе таялі, саступаючы месца роспачы.

Увосень 1875 г. Міхаіл Каяловіч у адным са сваіх артыкулаў выступіў супраць існуючай у чыноўніцкім асяродку спакусы завяршыць усю справу «гранічна хутка, не цырымонячыся». Пры гэтым ён падкрэсліваў, што вузкая адміністрацыйная крайнасць «...асабліва была цяжкай і небяспечнай для беларускага

насельніцтва епархіі. Беларусы, па самай ужо мяккасці сваёй прыроды, і з прычыны шматлікіх гістарычных змен у іх жыцці, не маюць такой прывязанасці да абраднасці і такой звычкі цвёрда ў ёй стаяць, як маларосы. Яны заўсёды больш даражылі ідэямі і заўсёды хутка іх засвойвалі. Гэтым тлумачыцца, што кожны сапраўды жыццёвы накірунак хутчэй імі засвойваўся, чым маларосамі. Каб пераканацца ў гэтым, дастаткова прыгадаць багатую ў іх літаратурную палеміку часоў уніі, шырокае развіццё брацтваў альбо развіццё народных школ у апошні час. Абрадавая крайнасць, — рэзюмаваў прафесар, — пры адсутнасці жыццёвага боку веры, хутчэй за ўсё знясіліць беларускую частку холмскай вобласці і лёгка можа падрыхтаваць самыя нежаданыя вынікі...» Меў рацыю М. Каяловіч у гэтых запозненых папярэджаннях. Значная колькасць экс-уніятаў паўднёвых (украінскіх) зямель епархіі скарылася перад абставінамі, у беларускіх жа раёнах, на этнічна стракатых абшарах сядлецкай губерніі было інакш. Тут, стаўшы на шлях негвалтоўнага супраціўлення, большая частка вернікаў разарвала ўсякія стасункі са святарамі.

Але жыццё працягвалася. Людзі жаніліся, нараджаліся дзеці, ды і смерць рабіла сваю справу. І вянчанне, і хрэсьбіны, і паніхіда — усё гэта павінна было прайсці праз тую царкву, да якой былыя уніяты афіцыйна належалі. Але царква разам з няголеным «бацюшкам» стала чужой, а ў шэрагу прыходаў — увасабленнем хлусні і гвалту. Людзі ўхіляліся ад трэб ва «уз'яднанай» царкве, а значыць — і ад першаснай рэгістрацыі актаў грамадзянскага стану. У адказ на іх абрынуўся цэлы арсенал «тэалагічных» аргументаў: арышты і турэмныя краты, высылкі ў паўночныя губерніі Расеі, нагайкі і штрафы.

Судзебная рэформа, што пачалася ў Прывіслінскім краі ў 1876 г., выявіла такую колькасць юрыдычных казусаў, якімі абрасла за год «вялікая царкоўная перамога», што загадам міністра юстыцыі графа К. Палена справы аб «уніяцкім супраціўленні» былі запатрабаваныя ў Пецярбург. Іх вывучэнне, агульная ацэнка і прававая экспертыза былі даручаны Анатолію Коні — віцэ-дырэктару касацыйнага дэпартамента Міністэрства юстыцыі, вядомаму рускаму ліберальнаму дзеячу. Грунтуючыся на дакументах, А. Коні прыйшоў да высновы, што гмінныя прыгаворы — гэта «зроблены бессаромлівымі рукамі (...) міраж», фальсіфікацыя. Ён пераканаўся таксама, што «былыя уніяты не хацелі іграць пасіўна-паслужлівую ролю ў той камедыі крывадушнасці (...), якая была над імі разыграна». Народ заставаўся адданым уніяцкай веры, а мясцовыя начальнікі, пры маўклівым патуранні цэнтра, — паліцэйскім сродкам. Вось тут і былі карані юрыдычных «казусаў».

Улады не грэбавалі сродкамі: ладзілі аблавы з мэтай прымусовага хрышчэння дзяцей (здаралася, што «чад церкви» ледзь не бусакамі выцягвалі з комінаў), нападалі на пахавальныя працэсіі, каб адбіць нябожчыка і арганізаваць пахаванне па афіцыйным абрадзе. Ну і, вядома, штрафы. За адмову ад папа пры пахаванні, або «самавольнае пахаванне», спаганяўся штраф у 10 рублёў, гэта была даволі распаўсюджаная з'ява. Але мерай «нумар адзін», справакаваўшай незлічоныя канфлікты паміж насельніцтвам і адміністрацыяй, былі штрафы за нехрышчэнне нованароджаных. Справа ў тым, што ў выпадку адмовы бацькоў ад хрышчэння дзіцяці ў прыходскай праваслаўнай царкве на працягу тыдня начальнік павета накладваў на кожнага з бацькоў штраф ад 1 да 7 рублёў. Непасрэдны выканаўца, гмінны войт, дамагаўся ад бацькоў выпіскі з метрычных кніг царквы. Пакуль такая выпіска не з'яўлялася ў яго, штраф кожны тыдзень павялічваўся на першапачатковую суму. Штрафы трымаліся звычайна на ўзроўні 5—6 рублёў, а гэта значыла, што праз колькі тыдняў штрафная сума рабілася літаральна спусташальнай для незаможных сялянскіх гаспадарак. У пэўны момант да хаты чарговага «упорствующего» прыходзілі войт, солтыс, салдаты і, не зважаючы на пратэсты, слёзы і лямант, пачыналі выносіць з хаты лепшыя рэчы няхітрага сялянскага скарбу, выводзіць кароў, коней. Усё гэта на бліжэйшым базары ў лік няўплачаных штрафаў прадавалася за бесцань. Да продажу гаспадароў не дапускалі, а мясцовыя скупшчыкі давалі мінімальную цану. Калі ж атрыманыя грошы колькасцю перавышалі штрафную суму, то лішак не выдаваўся гаспадару прададзенага, а захоўваўся ў гміннай канторы на рахунку «будучых штрафаў», альбо непасрэдна трапляў у чыноўніцкую кішэню.

Канфіскацыі маёмасці ўдаваліся не заўсёды. З розных мясцін прыходзілі звесткі пра сутыкненні і канфлікты. Выпадкі даволі падобныя: тры сялянкі, чые мужы былі сасланы за «упорство» на поўнач Расеі, пачалі бойку з солтысам і яго памочнікамі, пусціўшы ў ход качэргі, дубіны, гарачы дзёгаць; селянін хапае за каўнер солтыса, які загадаў выносіць куфар з пасагам жонкі; селянін-удавец наносіць пабоі вартаўніку і адбірае апісаную за шасцірублёвы штраф карову, крычыць, што яму лепш памерці, чым пазбавіцца карміцелькі сваіх трох малалетніх дзетак... І такіх канфліктаў, як сведчыць, А. Коні, было шмат. Па яго інфармацыі быў састаўлены даклад міністра юстыцыі Аляксандру II; пасля чаго адбылася асобая нарада з удзелам міністра юстыцыі Палена, шэфа жандармаў Патапава, міністра ўнутраных спраў Цімашова. У прынятай 23 красавіка 1876 г. рэзалюцыі было запісана, што ў адносінах «да былога уніяцкага насельніцтва павінны быць выкарыстаны пачаткі верацярпімасці на шырокіх падставах», але ў той жа час зазначалася, што трэба «не праследуючы, схіліць яго да выканання абрадаў праваслаўнай царквы».

Пачатак новага царавання прынёс уніятам пэўныя паслабленні рэжыму штрафных санкцый. Выпраўляючы злоўжыванні, урад па ініцыятыве К. Пабеданосцава вырашыў вярнуць спагнаныя раней рознымі сродкамі 30 тысяч рублёў штрафаў. Спыніліся ганенні за «парушэнні царкоўных святаў», г. зн. за прыхільнасць уніятаў грыгарыянскаму календару. Але наогул бюракратычная машына паварочвалася вельмі марудна, тым больш што яе ніхто не хацеў павярнуць. Гаворка ішла аб метадах запрыгоньвання вернікаў праваслаўнай царквой.

Надышоў юбілей — 50-годдзе «векапомнага ўз'яднання любоўю» (1839). З гэтай нагоды правіліся ўрачыстыя службы ў праваслаўных цэрквах. Друк змяшчаў тэндэнцыйныя агляды гісторыі праваслаўя на Беларусі і Украіне. Тут былі ўсе колеры падобнай расейскай літаратуры, панегірыкі ўсім «ревнителям» і «изобличителям» ад А. Філіповіча да Г. Каніскага, лаянка ў адрас езуітаў, палякаў, папства, Захада і г. д. Падзеі ў Падляшскім краі дужа псавалі карціну «трыумфа выратавальнай праваслаўнай стыхіі на заходніх ускраінах». Пагэтаму ў аб'ёмістай (звыш 400 старонак) кнізе, выдадзенай Св. Сінодам да круглай даты, апошняму ўз'яднанню» былі прысвечаны літаральна тры беззмястоўныя сказы. «Засталіся яшчэ (пасля 1839 г. — **І. М.**) уніяты ў Прывіслінскім краі, — пісаў нехта Ів. Малышэўскі ў артыкуле «Правда об унии к православным христианам». — І уніяцкія святары, і народ з прычыны асабліва неспрыяльных варункаў былі там так заглушаны, забіты, што не маглі ў 30-х гг. уз'яднацца разам з літоўскімі і іншымі уніятамі. Пасля 1864 г. яны ўздыхнулі вальней (...), акрыялі, і 1875 год даў рускай праваслаўнай царкве 250.000 новых гадунцоў...»

Ішоў час. Мінула амаль чвэрць стагоддзя пасля таго, як росчыркам пяра «венценосного вождя» холмскія уніяты сталі праваслаўнымі, а выніку «ўз'яднання» менш за ўсё гаварылі пра абвешчаную раней «царкоўную перамогу». Паводле сінодскіх даных у 1897 г. на Падляшшы існавала 83.000 «упорствующих», 26.000 нехрышчоных дзяцей; 9.800 пар знаходзіліся ў «блудном сожитии», г. зн. яны не вянчаліся ў праваслаўнай царкве. Оберпракурор Сінода К. Пабеданосцаў пісаў у сваёй справаздачы за 1897 г.: «Становішча «упорствующих» былых грэка-уніятаў да крайнасці сумнае. На споведзі яны не бываюць, шлюбаў не вянчаюць, дзяцей не хрысцяць, памёршых хаваюць самавольна. Забыўшы ўсе абавязкі, што накладвае на хрысціян рэлігія, яны зусім ачарсцвелі душой. Да праваслаўя «упорствующие» ставяцца з азлабленнем, з духавенствам пазбягаюць сустрэч і размоў, да памёршых праваслаўных іерэяў наогул не дапускаюць, на перакананні хрысціць дзяцей многія адказваюць: «Хутчэй утопім, чым ахрысцім у вашай царкве». Сярод іх не спыняецца прапаганда каталіцкіх ксяндзоў, тайнае адпраўленне імі трэб і споведзі».

Некаторыя даследчыкі (Ізвекаў, Кіпрыяновіч, Уладзіміраў) даволі крытычна ацэньвалі ступень «праваслаўнасці» былых беларускіх уніятаў увогуле. Так, напрыклад, у 1899 г. прэсвітэр маскоўскага прыдворнага Благавешчанскага сабора, магістр багасловя М. Ізвекаў у сваім «Историческом очерке состояния православной церкви в Литовской епархии (1839—1889 гг.)» пісаў: «Рэлігійна-маральны стан беларусаў Літоўскай епархіі, за невялікімі выключэннямі, — у сумным выглядзе... Ёсць такія прыходы, якія калі не «de jure», то «de facto» яшчэ ў стане уніі (...). Калі спытаць у селяніна такога прыхода аб адрозненні праваслаўя ад лацінства, ён скажа, што Бог як у касцёле, так у царкве адзін і той жа, дзе б яму ні маліцца — усё адно (...)». Ізвекаў згаджаўся з тымі аўтарамі, якія лічылі, што праваслаўнае насельніцтва Беларусі хаця і парвала некалькі дзесяткаў год таму векавую сувязь з Рымам, аднак хістаецца яшчэ ў сваіх рэлігійных перакананнях, і сімпатыі яго больш на баку касцёла і каталіцтва, чым праваслаўя і царквы. Больш за тое, ён прызнаваў, што «ўз'яднанне зрабіла тое, чаго дарэмна дабіваліся папы ад уніі столькі гадоў: народ у вялізнай колькасці перайшоў у каталіцтва (...)».

У Холмскай (цяпер ужо Холмска-Варшаўскай) епархіі справядлівасць думак М. Ізвекава была асабліва відавочнай. Словы і дзеянні царскай адміністрацыі страшэнна дыскрэдытавалі праваслаўе ў вачах народа, узрасцілі ў ягонай душы агіду да казённай рускасці ва ўсіх яе «ветвях» і праявах. Руская царква тут канчаткова страціла (як прадказваў, дарэчы, яшчэ і У. Салаўёў, здаецца, адзіны з праваслаўных мысліцеляў, хто асудзіў апошняе «ўз'яднанне») сілу духоўнай прыцягальнасці. Толькі рэпрэсіўна-паліцэйскі рэжым трымаў уніятаў у агароджы праваслаўнай царквы, яшчэ больш спрыяючы росту сярод іх «искореняемых» польска-каталіцкіх сімпатый.

Асобныя выпадкі пераходу уніятаў у рымскае каталіцтва назіраліся ў холмскай епархіі і да 1875 г., і пасля яго, нягледзячы на жорсткія заканадаўчыя забароны. Пасля ўказа аб верацярпімасці (17.04.1905) пераход былых уніятаў у каталіцтва набыў масавы характар. «Церковный Вестник» з жахам паведамляў аб «расхищении православного стада»: «...У Беларусі, Літве, Валыні, Падоліі, Холмшчыне рускае насельніцтва, скалечанае гісторыяй, склалася ў стракатыя групы, якія хістаюцца паміж дзвюма культурамі і канфесіямі. Там было шмат паднявольных праваслаўных, прагнучых у глыбіні душы касцёла або уніі. Цяпер яны скідваюць маску крывадушша і, схіляемыя фанатычнымі прапагандыстамі каталіцтва, дзесяткамі тысяч прыпісваюцца да касцёлаў. Пусцеюць цэлыя прыходы (...). Асабліва небяспечны і сумны лёс праваслаўя ў Холмскім краі. Пасля 17 красавіка каталіцызм літаральна спраўляе тут свой трыумф. Праваслаўе перажывае вялічэзны крызіс...»

Паланізацыя беларусаў на Падляшшы рушыла нечуванымі тэмпамі.

Цяпер стала магчымай крытыка кіраўнікоў «ўз'яднання» за невалоданне дарам палітычнай праніклівасці. І той жа «Церковный Вестник», аналізуючы правал, пачаў друкаваць поруч з традыцыйнай апалогіяй сінодскіх рашэнняў дзіўныя рэчы, накшталт: «...Беларус не атаясамлівае сябе з рускім...», «у беларусаў існавала правіла: у якой веры нарадзіўся, у той і памерці мусіш...», «Беларус (падчас «ўз'яднанняў». — **І. М.**) быў прыведзены да жахлівай для яго думкі, што яму навязваюць (...) чужую яму, рускую веру, што ён павінен адмовіцца ад той роднай веры, у якой памерлі ягоныя бацькі і дзяды». А вядомы кадэцкі дзеяч, гісторык і публіцыст А. Карнілаў назаве «ўз'яднанне» 1875 г. «самай ганебнай старонкай» рускай рэлігійнай палітыкі.

**Ігар МЯДЗВЕДЗЕЎ**

Марцін КОЎЗКІ

# ДОЛЯ ПРАЎДЫ

●

Беларусь, палігон генацыду, чуеш прыглушаны крык, патанае твая Атлантыда, мовы тваёй мацярык.

●

Хлопцам з дзеўкамі адно — ад чужых вачэй схавацца. Дык хадзілі ў кіно — не глядзець, а цалавацца. А цяпер гарыць кіно, пракат касавурыцца — хлопцы з дзеўкамі даўно цалуюцца на вуліцах.

●

Скорагаворка. Мы зямлю меліяравалі, меліяравалі, пакуль канчаткова не замеліяравалі. Кепска, кажаце, меліяравалі? А як прэміявалі, так і меліяравалі.

●

Небагатая, Беларусь, твая зямля, ды дзялкі даўно нажылі мільёны на бязлікіх тваіх камянях, прададзеных у далёкія рэгіёны. А каму цікава ўвогуле, што камяні — з могілак?

●

Напісаў апавяданне. Панёс у часопіс. Надрукуем, кажуць, але знайдзі сабе спонсара. Знайшоў спонсара. Прафінансуем, кажа, але выбі нам ільготную пастанову. Звярнуўся да сяброў-дэпутатаў. Прымем, кажуць, такую пастанову, але падключыся да нашай выбарчай кампаніі. Падключыўся. Ды, мабыць, дарма. Дэпутаты не прайшлі. Пастанову не прынялі. Спонсар грошай не даў. Часопіс апавяданне вярнуў. Пляту цяпер кошыкі на продаж. Даю ў лапу міліцыянеру, каб не прагнаў з рынка. З дня на дзень чакаю візіту рэкеціраў. Такое вось сумнае апавяданне.

●

З амерыканскай афарыстыкі: у войнах важна не перамагаць, а не ўдзельнічаць.

ЛіМ ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА
ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

Заснавальнікі:
Саюз пісьменнікаў Беларусі
і Міністэрства культуры і друку
Рэспублікі Беларусь

Выходзіць з 1932 года



АДРАС РЭДАКЦЫІ:
220600, ГСП, Мінск,
вул. Захарава, 19

ТЭЛЕФОНЫ:
прыёмная рэдакцыі *332-461*
намеснікі галоўнага рэдактара *332-525, 331-985*
аддзелы:
публіцыстыкі *332-525*
пісьмаў і грамадскай думкі *331-985*
літаратурнага жыцця *332-462*
крытыкі і бібліяграфіі *332-204*
паэзіі і прозы *332-204*
музыкі *332-153*
тэатра, кіно і тэлебачання *332-153*
выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў *332-462*
навін *332-462*
мастацкага афармлення *332-204*
фотакарэспандэнт *332-462*
бухгалтэрыя *268-640*



Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра «ЛіМа»

Апаратныя сродкі і тэхнічная падтрымка — фірма «Дайнова»

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку". (г.Мінск, пр. Ф.Скарыны, 77)

Індэкс 63856. Наклад 11.194.
Нумар падпісаны 25.08.1994 г.

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

